Хай жыве саюз рабочых і сялян!

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“

№ 6-7 (26-27) — ЧЭРВЕНЬ—ЛІПЕНЬ 1928 г. — № 6-7 (26-27)

*НА АСІНАСТРОІ.*



**Машыны запрацавалі. Па электрычных правадох ток пайшоў туды, дзе растуць чорныя стагі лепшага апалу—торфу.**

## ВЕЧАР ЧЭРВЕНСКІ,

### Алесь Жаўрук.

Вечар чэрвенскі махнуў сваім крылом.
Задрамала жоўтастрэхае сяло.
Заблудзіўся месяц ў калёнах і павіс,
Срэбнай наквецьцю даліны апавіў...
Я пайду ў далю праз ветраную гаць,
Дзе шуміць гальлём блакітны стройны гай,
Буду слухаць, буду піць вячэрні пах,
Каб гарэў вачэй заранкавы запал,
Каб ў раздольлях адвячоркаў залатых
Жар юнацтва не датлеў і не астыў.
І каб сьпеў мой разудалы, шчыры сьпеў
Над плятнамі розных вёсак празьвінеў.
Вецер, вецер—кучаравы, буйны брат,
Растлумач мне словы: «Роспач» ды «Журба»,
Як сягоньня іх спазнаць мне, зразумець,
Калі ў сэрцы радасьць буйная ды сьмех...
Ну дык пойдзем, пойдзем ў даль, Алесь Жаўрук,
Піць юнацтва каляровую зару,
Каб буяней разудалы, шчыры сьпеў
Над плятнямі розных вёсак празьвінеў.

# Кляновае лісьцейка.

**Васіль Стафанік?*)**

I.

Пасьцель заслана палатном, каля стала на задняй і пярэдняй лаве заселі кумы, на краю печы ў радок дзеці. Яны паспускалі рукі, як стадка пярацёлак, што спачываюць, але ўсе гатовы ляцець. Затое кумы сядзелі як укопаныя, толькі рукамі даставалі хлеб, або чарку гарэлкі, але і рукі лепш-бы не варушыліся, лепш-бы спачывалі-б, згарнуўшыя ў кулак на каленах. Ня радасна яны бралі хлеб і чарку. Каганец сьвяціў на прыпечку і парабіў з кумаў вялікія, чорныя цені і кінуў іх на сьцяну. Там яны пераламаліся на столі і таксама не варушыліся.

Каля стала, паніклы, стаяў Іван, гаспадар хаты і бацька маленькага дзіцяці, толькі што ахрышчанага.

— Будзьце ласкавы, мае кумы, ды выпіце яшчэ па адной. Хоць гэта не гарэлка, а гразь, але з мужыком то гэтак заўсёды: дзе што на сьвеце ёсьць найгоршага, дык ён павінен тое спажыць, дзе што на сьвеце ёсьць найцяжэйшае, дык ён павінен тое выканаць...

— На тое мы і радзіліся,—адказвалі набожна кумы. Калі чарка абышла ўсіх, Іван яе палажыў бокам каля пляшкі, бо баяўся, каб ня ўпала гэтакая маленькая на зямлю.

— А закусіўшы... Ды і бачце, які мне клопат найшоў у самае жніво, самы агонь. А я, дальбог, ня ведаю, што з гэтага можа быць?! Ці павінен я кінуць жніво ды даглядаць жонку і варыць дзецям есьці, ці павінен кінуць іх тут на ласку божую ды галодны цягаць касу? Бо ўжо мне так мае быць, бо ў такі час ніхто да хаты ня прыдзе і за вялікія грошы. На табе, Іване, дзіцё ды і радуйся, бо яшчэ іх мала маеш!

— Не наракайце, куме, ды ня гневайце бога, бо гэта яго воля, а ня ваша. А дзеці... як пена на вадзе, што-небудзь на іх пойдзе... дык і панесеце ўсіх на магілу.

— У мяне ня пойдзе, але там, дзе ёсьць адно, там пойдзе. Жабрак, каб так ня туліўся да жонкі, каб не глядзеў у той бок, дзе жонка, дык-бы найлепш зрабіў. Тады і бог ня дасьць...

— Куме, вы гэта дарэмна гаворыце, так ніколі ня будзе, бо людзі павінны пладзіцца.

— Каб-жа гэта людзі, а то жабракі плодзяцца. А я пра тое і кажу, што ты, жабрак, не пладзіся, не разводзься, як мыш, ты будзь задаволены, калі маеш на плячох сарочку, калі маеш акраец хлеба, каб ня быў галодным, ды калі цябе ніхто па твары ня лупіць. Калі гэтыя тры справы маеш, дык і павінна табе быць добра, а ад жонкі вон адступіся.

— Куме Іване, дайце трошкі спакою, бо жонцы, як гэта звычайна ў гэтакім інтарэсе, ня трэба гэтага слухаць, бо гэтакая гаворка не дае здароўя. Калі-небудзь іншым, лепшым часам.

— Я вас вельмі перапрашаю за маю гэтакую гаворку, але вы думаеце, што я пра яе дбаю, або я пра сябе дбаю?! Дальбог, ня дбаю, няхай іх зараз... і мяне з імі. Ай! Ото-ж бо мы ўтрацілі-б рай на зямлі і маёнткі-б згубілі.

Кумы ўжо не адзываліся, не пярэчылі, бо бачылі, што Івана не перамогуць, і хацелі, каб хутчэй ён выгаварыўся ды хутчэй іх пусьціў спаць. Іван устаў ад стала, супыніўся пасярод хаты, спусьціў рукі так, як дзеці на печы, і пачаў гаварыць да іх:

— Дык чаму-ж не ляціце з мае галавы? Я вам адчыню і вокны і дзьверы!..

Дзеці схаваліся на печы так, што іх ня было ўжо відаць.

---

*) Васіль Стэфанік — вядомы украінскі пісьменьнік.

— От, плойма, абы адно хлеба, ды й хлеба, ды й хлеба. А адкуль-жа я табе таго хлеба набяруся? Калі табе кожнае каліва жыта ў сэрца коле!

Гэта было да дзяцей, а цяпер ён зьвярнуўся да кумоў.

— А ўвечар, абы толькі зьявішся да хаты, такі як вехаць вялы, стомлены, а яны табе ў адзін голас... і жонка і дзеці: «Няма хлеба!» Дык ты ня йдзеш, бедны чалавеча, спаць, але ты цягнеш цэп ды малоціш прыцемкам, каб заўтра мелі з чым ісьці ў жорны. Ды так цябе цэп і зваліць на сноп, ды так і дзеравянееш да ранку ў сьне, аж цябе раса пройме. А як толькі вочы пралупіш, дык зараз цябе тая раса есьць, бо мала цябе бяда есьць, яшчэ яна ўночы цябе знойдзе! Прамыеш вочы да й ідзеш, гэтакі чорны, што сонца перад табою меркне.

— Іване, ня трэба журыцца дзецьмі, бо гэта ня столькі вы, але бог ім тата, старэйшы за вас.

— Я з богам ня братаюся, але нашто ён пускае на сьвет, як голае ў крапіву? Пусьціць на зямлю, таленту ў рукі ня дасьць, манны з неба ня спусьціць, а потым увесь сьвет крычыць: «мужыкі зладзеі, разбойнікі, душагубцы!» Запрэцца адзін з адным у царкве такі гладкі, што муха на ім не паўзе, ды каркае. «Вы,—кажа—дзяцей не навучаеце страху божаму, вы іх самі пасылаеце красьці!..» Ці-ж я даслужыўся, каб мяне так ганьбілі. А каб каля майго дзіцяці і мамка, і нянька, і дабрадзейка хадзіла, каб мне людзі ўсята пазносілі, дык і я-б, ягомасьць *), знаў, як дзяцей вучыць. Але мае дзеці растуць па бур'янах разам з курмі, а калі што да чаго прыйдзе о так, як цяпер, дык ніхто ня ведае, што яны цэлы дзень ядуць? Ці крадуць, ці жабруюць, ці пасуць, а я адкуль ведаю?.. Я кашу вашы гоні ды й забываю ня толькі пра дзяцей, але пра сябе ня памятаю! Вы хацелі-б, каб я вашае поле вырабіў і дзяцей каб я вучыў. А вы ад чаго? Так, людзі, вы самі ведаеце, якое наша жыцьцё...

— Ведаем, куме, ведаем! Як ня ведаць, калі самі ў ім бродзім.

— Я на дзіцё гляджу, але ня думаю, каб яно было вельмі здольнае, каб умела да ладу зрабіць. Я адно гляджу, ці яно ўжо добра па зямлі ходзіць, каб яго як на службу ўперці, от чаго я чакаю. Я не чакаю, каб яно ўбралася ў сілу, каб розуму набрала, каб яно каля мяне нажылося. Каб толькі багатыр або пан разьявіў сківіцы, дык я яго туды кідаю, каб абы збыць! А пасьля яно бегае каля жывёлы, ногі—адна рана, раса есьць, іржышча коле, а яно скача ды й плача. Ты-б яму адвярнуў жывёлу, пацалаваў-бы яго ў ногі, бо ты яго спладзіў, ды й сумленьне ў цябе ёсьць, але мінаеш, яшчэ й хаваешся ад яго, каб яго ня чуць.

Аж пачарнеў, аж задыхаўся.

— Ды й расьце яно пад сталом або пад лаваю, есьць кулакі, мыецца сьлязамі. А падрасьце, ды што-небудзь украдзе, бо яно ніколі дабра ня ведала, дык крадзеным хоча пацешыцца. Глядзіш... ідзе да цябе жандарм. Цкуе цябе і наб'е цябе, як жывёліну, бо ты бацька злодзеяў, ды й мусіш з ім быць у змове. Дык і станеш злодзей навек! Але гэта яшчэ ня ўсё, канец яшчэ наперадзе. Няхай-бы сын, ваша дзіця, а людзкі зладзей, няхай-бы згінуў у астрозе, бо злодзея ня шкода! Няхай-бы! А то яны адбяруць здароўе ды й аддадуць лячыць, а пасьля пасылаюць ліст да войта, каб бацька плаціў кошт. З хаты выганяюць, пад плот выкідаюць з бэбахамі. Ідзеш да войта, у рукі цалуеш: «Войтачку, вызвалі мяне ад гэтае кары». «Ты,—кажа войт,—бедны чалавек, дык можа цябе выпусьцім, але якую я буду мець з таго выгаду?» Сьціснеш плячыма, складзешся, як ножык, ды й кажаш: «Месяц вам буду дарам служыць»...

*) Ягомасьцем—у Галіччыне завуць папа.

Так ці ня так, людзі? Праўду кажу, ці брашу, як сабака!?

— Усё так, ні на адно слова вы не памыліліся.

Іван дрыжаў увесь, чуў на сабе ўсю ценжар страшных сваіх слоў.

— Каб вы не казалі, людзі, што каркае над галовамі сваіх дзяцей, як варона над падлаю! Не кажэце людзі, не кажэце! Я ня каркаю, а праўду гавару, мой жаль каркае, сэрца каркае.

Вочы яго загарэліся і ў іх зьявілася страшнае замілаваньне да дзяцей. Ён шукаў іх вачыма па хаце.

— Бо выходзіць так, што я сваіх дзяцей цураюся, горш як цёмны вораг. А я, бачыце, ня цураюся, а я толькі разгарнуў перад вачыма сёньня і заўтра, і год, і другі, і паглядзеў на сваіх дзяцей, што яны там робяць? А што я ўбачыў, тое і сказаў. Я пайшоў да іх у госьці, ды і кроў мая застыла на іх бытаваньні...

Праз хвіліну.

— Каб да тае Канады *) ня было мора, дык я-б іх у мех забраў-бы ды й пешкі-б туды з імі ішоў, каб іх занесьці далёка ад гэтага бэшчаньня. Я-б тое мора берагамі абходзіў...

Кумы забыліся былі пра адпачынак, а цяпер успомнілі, хутка паўставалі й пайшлі.

II

Рана.

Дзеці сьнедалі на зямлі, аблівалі пазухі і стукалі лыжкамі. Каля іх ляжала мама, худая, жоўтая, і клала калені пад грудзі. Па чорным, нечасаным валосьсі сплывала пакута і боль, а губы сашчапіліся, каб ня крычаць. Дзеці з лыжкамі ў роце абарачваліся да мамы, глядзелі і зноў абварачваліся да міскі.

— Сымонка, ты ўжо наеўся?

— Ужо,—адпоўз шасьцігадовы хлапец.

*) Канада—краіна ў Амэрыцы. Туды ўцякалі, шукаючы кавалка хлеба, Галіцыйскія сяляне.

— Дык вазьмі венічак, пакрапі зямлю ды падмяці хату. Мама ня можа нагнуцца, бо вельмі баліць у сярэдзіне. Ня пылі вельмі.

— Падымецеся, бо цераз вас я не магу месьці.

Мама паднялася і павалаклася на пасьцель.

—Сымонка, а цяпер добра памыйся, і Катруся, і Марыя няхай памыюцца, і пабяжы ў збанок вады начэрпай, але не ўпадзі ў крыніцу, ня схіляйся вельмі...

— Сымонка, пайдзі ды нарві агуркоў у рэшата, каб мама ў гаршчку накваісіла, бо, я бачу, што буду слабая, дык ня будзеце мець што з хлебам есьці. Ды нарві хрэну і вішнёвага лісьцьця.

— Сымонка, здымі з вешала сарочкі, каб я палатала, бо ходзіце чорныя, як вораны.

— Сымонка ўсё бегаў, усё рабіў, што маці казала і раз па разу падганяў меньшых сёстраў і казаў, што дзеўкі ня ведаюць нічога, апроч як есьці.

— Яны яшчэ малыя, Сымонка, як вырастуць, дык і будуць табе сарочкі прасьці.

— Я наймуся, дык і там мне будуць сарочкі прасьці... я ад іх не патрабую.

— Ня цешся, дзіцятка, службаю, бо ня раз будзеш свае дні аплакваць.

— А вось тата вырасьлі ў службе і нічога ім не бракуе.

— І ты вырасьцеш у службе, аж скура будзе лупацца ад таго росту. Але ты, Сымоне, не гавары, але зьбірайся тату несьці абед. Ён недзе такі галодны, што вочы за табою праглядзеў.

— Я мушу татаву палку браць, каб ад сабак абганяцца.

— А калі згубіш, дык і будзе тата нас абоіх біць. Ды ня ідзі з голаю галавою, але вазьмі хоць татаў капялюш.

— Той капялюш толькі на вочы насоўваецца, што ня відаць дарогі.

— Вымый збанок ды й налі баршчу,

— Вы мяне ня вучэце гэтулькі, бо я ведаю.

— Сымонка, а глядзі, каб цябе сабакі не пакусалі.

III.

Дробна ступаў нагамі па грубай жарстве дарожнага пяску і пакідаў за сабою маленькія сьляды, як белыя кветкі.

— Пакуль я зайду, дык сонца мяне спарыць. Але я сабе зьбяру валасы так, як салдат, дык і будзе мне лепш ісьці.

Паклаў абед на дарогу і сабраў валасы наверх галавы, каб прыцісьнуць іх капялюшам і выглядаць, як абстрыжаны салдат.

Вочы сьмяяліся, падскочыў і пакаціўся далей. Ды валосьсе з-пад шырокага капялюша ссунуліся на патыліцу.

— Гэта брыдкі капялюш, але няхай я наймуся, дык я тады сабе капелюшак...

Толькі аблізаўся. Прайшоўшы шмат дарогі, ён зноў паставіў абед на зямлю.

— Я нарысую сабе вялікае калясо са сьпіцамі.

Сеў пасярод дарогі ў пясок і абвёў наўкола сябе кійком, пасьля рысаваў сьпіцы ў калёсе. Пасьля сарваўся, пераскочыў за обад і пабег вельмі зарадаваны.

Да кожных весьціп прыкрадаўся, зазіраў, ці няма на дварэ сабакі, і тады хуценька перабягаў.

З аднаго двара выбег сабака і пусьціўся за ім. Сымонка перапалохаўся, закрычаў і сеў з полуднем. Палка таксама ўпала на дарогу. Доўга скурчаны сядзеў, чакаў сабакі, каб кусаў. Пасьля адважыўся паглядзець і ўбачыў над сабою чорнага сабаку, што спакойна стаяў каля яго.

— На, на, Цыган, на крупніку, але ня кусай, бо баліць вельмі, ды й штраф твой гаспадар будзе плаціць. Тады ён табе ногі паломіць за той штраф.

Шчыпаў з хусткі ежу, кідаў сабаку па кавалачку і сьмяяўся, што ён на паветры хапае.

— А ты чый шыбенік, што сабак на дарозе корміш? А ў поле што панясеш? І нейкая жанчына гопнула яго па шыі.

Дык вы яшчэ б'еце, калі й так сабака хацеў мяне разьдзярці.

— А ты чый, гэтакі спрытны?

— Я Івана Пятровага, але мама радзіла дзіцё ды вельмі слабая, дык я павінен несьці абед і мяне сабакі кусаюць, а вы яшчэ б'яце...

— Ой, як я цябе біла... Куды-ж ты нясеш есьці?

— Тату нясу на поле, каля ставу.

— Ідзі за мною, бядача, бо я таксама нясу туды абед.

Пайшлі разам.

— А хто абед варыў?

— Мама варыла, бо я яшчэ ня ўмею, а Мар'я і Кацярына яшчэ меншыя за мяне.

— Дык ня слабая мама?

— Чаму ня слабая, так качаюцца па зямлі, так енчаць, што аж! Але я за яе раблю...

— Ото-ж ты работнік!

— Вы ня ведаеце, дый гаворыце абы што. Ану, запытайцеся ў мамы, які я разумны, я отча наш ведаю напамяць...

Жанчына засьмяялася, а Сымонка паціснуў плячыма і змоўк.

За ім бег сабака, а ён нібыта кідаў яму яду і вабіў ісьці за сабою.

IV.

Тры дні пасьля.

Пасярод хаты сядзеў Сымонка і сёстры і ночвы з маленькім дзіцём сталі. Каля іх міска з зялёнымі, накрышанымі агуркамі і хлеб. На пасьцелі ляжала маці, абложаная зялёнымі вербавымі галінкамі. Над ёю гуў рой мух.

— Папаедайцеся ды й ціха сядзеце, бо я панясу дзіцё да Васіліхі, каб пазабаўляла. Тата казалі, каб несьці рана, а паўдні і пад вечар, а ўвечары яны самі прыдуць.

— Сымонка, не пераламі дзіцянёці.

— Я думаў, што вы спалі. Тата казаў даваць вам халоднай вады і булку есьці. Мар'я такая спрытная, што яна гэтую булку схапіла і ўкусіла ўжо раз. Але я набіў яе. Будзеце есьці?

— Не хачу.

— Тата ссукаў яшчэ сьвечку ды казаў, што, калі будзеце ўміраць, дык даць вам у рукі і запаліць. Але я ня ведаю, калі даваць?

Маці паглядзела вялікімі, бліскучымі вачыма на сына. Бяздоньне смутку, увесь жаль і бясьсільны страх зыйшліся разам у вачох, і разам спладзілі дзьве белыя сьлёзы, яны выкаціліся на павекі і астыглі.

— Тата рана на пападворку таксама плакалі, ды галавою аб вушак стукалі. Заплаканы ўзяў касу і пайшоў.

Сымонка ўзяў дзіцё і выйшаў.

. . . . . . . . . .

— Сымонка, каб ты не даваў Катрусю і Марыйку, і Васілька біць мачысе. Чуеш? Бо мачыха будзе вас біць, ад яды адганяць і белых сарочак не даваць.

— Я ня дам і тату буду казаць.

— Не паможа нічога, сынку мой міленькі, дзіцятка мае найзалацейшае! Як вырасьцеш, каб вы між сабою дужа любіліся, дужа, дужа!.. Каб ты памагаў ім, каб не даваў у крыўду!

— Як буду я служыць ды калі буду дужы, дык я іх ня дам, буду да іх штотыдзень прыходзіць.

— Сымонка, прасі тату, што мама наказвала, каб вас любіў...

— Ешце булку.

— Сьпявай дзіцяці, няхай ня плача...

Сымонка калыхаў дзіцё, але сьпяваць ня ўмеў. Дык маці абцёрла далоняю сухія губы і засьпявала.

У слабым, абарваным голасе вылівалася яе душа і паціхеньку западала між дзяцей і цалавала іхнія галавы. Словы ціхія, нявыразныя, гаварылі, што кляновае лісьцейка разьвеялася па пустым полі і ніхто яго пазьбіраць ня можа, і ніколі яно не зазелянее. Песьня намагалася выйсьці з хаты і палядець у пустое поле за лісьцейкам...

**Пераклаў з Украінскае мовы К. Ч.**

---

## МАТУЛІ.

**Рагнеда Беразінская.**

Ой, сагнуўся стан твой,
Матуля любая.
Пабяліла косы
Ой нуда ліхая...
Устае павольна
Прад табой былое—
Успомніла міжвольна
Жыцьцё маладое.
Зноўку ты дзяўчына
З чорнымі брывамі,
Шэрымі вачыма,
Чорнымі касамі.
Зноў пераплятаеш
Косы васількамі,
Потым аздабляеш
Жыта каласкамі.
Ды бяжыць за годом год.
І ты пастарэла,
Пад навалаю гадоў
Каса пабялела...
Арлянятамі з гнязда
Паляцелі дзеці.
Засталася ты адна
Бяз нікога ў сьвеце...
Ды усё змагла ты—
Сілы 'шчэ хапіла.
Бачыла ты краты,
Бура ня схіліла.
Сыну памагала
Ў працы за свабоду—
Кідала адозвы
Скутаму народу...
Вось і сьцяг свабоды
Чырванью узьвіўся...
Ой, стамілі годы,
Стан твой пахіліўся...

---

# Сьмерць Ніхмадзяна.

## Г. Галенкоў.

Мы адступалі, і коньнікі паілі ўжо сваіх коняй у ўскаламучаным Нёмане, а ззаду засмучоныя вёскі трывожна прыслухоўваліся да пераможнага маршу пазнанскіх батальёнаў.

Ніхмадзян—маленькі татарчук і баявы разьведчык, быў ранен у нагу і адставаў. Пасьля прывалаў ён з вялікай натугай падымаўся і, абапіраючыся на вінтоўку, кульгаў усьлед за палком, а яго гостры птушыны тварык моршчыўся ад болю.

Вось і Нёман. Ціхі ён нешта сягоньня, нібы прыслухваецца і ня можа зразумець, чаго гэта людзям не сядзіцца на месцы, шлындаюцца натоўпамі, парушаюць спакой прыбярэжных лясоў крыкамі, стогнамі, грукатам.

Часам сьмяецца, часам сярдуе стары Нёман.

Апошні прывал. Ніхмадзян садзіцца на траву, і праз перавязку ў яго сачыцца кроў.

— Канчаў вайна... Мой канчаў... І-ых, анайнассыгім!

Ён доўга, зьмешваючы татарскую лаянку з расійскай, кляне вайну, палякаў, бальшавікоў, потым абарочваецца да мяне:

— Ду-уррак... нашто ішоў дабраахвотнікам? У-уй, дуррак!

І з захапленьнем пачынае апавядаць, як добра жыць у яго там дома, якая ў яго прыгожая жонка і разумны хлопчык Ахметка.

Дзесь збоку надружна раз за разам расплескваліся вінтовачныя заўпы. Але яны ўжо зусім ня былі страшны, бо вуха звыклася з імі, і тут, побач з Нёманам, здавалася, што гэта вясковыя хлапчукі-падшывальцы плёскаюць за кустамі па вадзе садранай са старой яліны карой.

Потым з-за вёскі цяжка ухаюць варожыя шасьцідзюймоўкі. Разам са сваімі снарадамі яны пасылаюць нам жудасьць сьмерці, і здаецца тады, што гэта ляцяць невядомыя і нябачаныя, але страшэнныя птушкі-драканы, каб ухіцца чалавечаю крывёю, адпомсьціцца за нейкую сваю крыўду гэтым змучаным, запыленым людзям.

Прыехаў ваянком дывізіі, і полк падняўся. Ваянком гаварыў аб сусьветнай рэвалюцыі і блізкай перамове, аб тым, што пазнанцы зарваліся і трэба праўчыць іх, што трэба прапусьціць іх на той бераг і ўзарваць мост, каб потым націснуць і ўкінуць у Нёман.

Пасьля гэтага полк пераходзіць па мосьце на той бераг, а наша каманда застаецца: яна павінна ўзарваць мост.

— Ніхмадзян, — кажа начком,—валі ўсьлед за палком, бо ты кульгавы, а нам прыдзецца «драпаць». Марш!

Ніхмадзян крывіцца ад болю і крыўды і зноў пачынае лаяцца:

— Ду-уррны башка... Куды валі? Абоз—нет, конь—нет, нага перастал работаць. І-х, анайнассыгім!

І ён кульгае сьледам за камандай, глядзіць, як сьпяшаючы закладваюць хлопцы пад умацаваньні мосту піраксылінавыя шашкі, потым разам з усімі хаваюцца ў прыбярэжныя кусты.

Жудаснае чаканьне.

І вось з-за ўзгорку на добрых узмыленых конях вылятае эскадрон уланаў, наўзгалёт імчыцца па мосьце і хаваецца на тым беразе ў лесе. Цераз некаторы час тупаюць па мосьце варожыя пяхотныя роты.

— Пара...

Мы пераглянуліся. Трэба ўсьці было аднаму ўзрываць, бо шнуры былі не падпалены, каб не ўзарваць раней, чым трэба.

— Ну, што-ж, хлопцы, жараб'ёўку кінуць.

Ня ведаю, хто выказаў гэтую думку, але, напэўна, ува ўсіх яна была ў галаве. Хутка апусьцілі ў шапку паперкі, пачалі цягнуць.

— Мне... — гэта кажа Ніхмадзян. Твар у яго зьмяніўся, пацямнеў, у вачох быў сум. Ён не сказаў нікому ні слова, павярнуўся і закульгікаў да мосту.

Мы чакалі. І калі пачуўся выбух, мы бачылі, як хутка Ніхмадзян кульгікаў назад, паваліўся, зноў падхваціўся і...

З-за ўзгорку пачуліся стрэлы, паказаліся шапкі варожага ланцуга. Ніхмадзян схваціўся рукою за бок і, як скошаны касой, уткнуўся тварам у пясок. Цела яго крыху падрыгала, потым замёрла.

А мы пусьціліся ўздоўж берагу ўцякаць. На процілеглым—нашым—беразе сакаталі кулямёты, было чуваць, як коньнікі нашы крычалі сваё роднае і пераможнае—«Даёш»!

Загад ваенкому выконваўся.

А Ніхмадзян застаўся ляжаць на пяску каля мосту, і казалі пасьля, што цела яго азьвярэлыя пазнанцы скінулі на штыхох у Нёман.

## ДУМКІ СТАРОГА.

К. Сапроненка.

Я стары чалавек,
Мае косьці баляць;
Я аджыў ужо век,
Блізак час паміраць.

Я стары сівы дзед,
Я сухі, як таран; —
Зараз кіну я сьвет —
Мне жыцьцё згубіў пан.

Я дарма працаваў
У карысьць пузачом,
Пад прыгнётам стагнаў,
Пот мой ліўся руччом.

Шмат я бачыў турбот,
Працаваў, нібы вол,
Нёс цяжар з году ў год,
А быў босы і гол.

Мой змаршчыністы твар
Так, як хмарны стаў дзень,
У вачох пагас жар,
Я глухі, нібы пень.

А ўміраць—не хачу!
Каб яшчэ-ж як пажыць!
Бо жыцьцё-ж! ой жыцьцё!—
Вольнай рэчкай бяжыць.

Але-ж я стар і хвор,
Мне ад роду сто год, —
Па мне плача ўжо дол,
Я расстану як лёд.

## ВЁСЛА СТРАЖАВА НА АРШАНШЧЫНЕ.



Праўка дарог.

# У сібірскіх прасторах*).

Я. Цьвік.

## „САМАХОД“

Чалдоны — старыя жыхары Сібіры— «самаходам» завуць хадака-перасяленца з-за Ўралу. Так завуць затое, што перасяленец сам па сваёй волі ідзе туды, куды даўней толькі прымусова высялялі за які-небудзь благі ўчынак — забойства, выступленьне проці ўраду і іншае.

Чалдон ня любіць самахода і адносіцца да яго не ласкава.

Шмат выпадкаў ёсьць, што перасяленец, спатканы не ласкава дзікай прыродай і жыхаром Сібіры, траціць надзею ўжыцца ў такіх умовах і вяртаецца на сваю радзіму. Вось адзін з тысячы прыкладаў першага спатканьня паміж перасяленцам-хадаком і чалдонам.

Андрэй Шпак з гораду Томску разам з двума сябрамі-землякамі Віцебскай губэрні: Янкам Кісялём і Хвёдарам Таруха, пайшоў на ніз ўздоўж ракі Тамі і Обі аглядаць вучасткі.

Першы дзень, пасьля двух-тыднёвага праезду ў вагоне, ісьці было лёгка. Дарога бясконцнай істужкай цягнулася паміж тайгі сібірскага лесу. Хоць торбачкі з сухарамі і мулялі плечы, але нічога. Гутарачы паміж сабою і наглядаючы новыя малюнкі прыроды, яны й ня заўважылі, як прашлі паўдня і зрабілі вёрст дваццаць.

Вышлі з тайгі і перад імі разаслалася елонь — гэта роўнае, гладкае поле, зарослае густою высокаю травою, з рэдкімі засевамі жыта, пшаніцы, яркі і аўса. Засевы былі добрыя-рослыя і ішлі ў колас, бо час быў каля Пятры.

Дзень быў цёплы, ясны, але не гарачы. Тут яны зьвярнулі ўвагі на вогнішча каля дарогі, дзе яшчэ дыміла галавешка, і, пераглянуўшыся паміж сабою, парашылі адпачыць і папалуднаваць. Падкінулі на агонь гальля і ён зашугаў весела і прыветна. Дасталі з торб хлеб і сала, закусілі і ўжо зьбіраліся ісьці далей, як насустрэч да іх пад'ехалі дзьве хурманкі і прыпыніліся.

З пярэдняй хурманкі саскочыў мужчына гадоў сорак, сярэдняга ўзросту. Адзеты ён быў у чорную вопратку, боты і зімовую шапку з вушамі. Прыпыніў каня і сказаў:

— Стой, закурым.

На другой хурманцы сядзеў мужчына гадоў пад пяцьдзесят з шырокай чорнай барадой. Першы падышоў да агню і прывітаўся:

— Здаровы былі!

— Здароў, — адказалі хадакі.

— Чо, самаходы? Падзі Сібіру смотрець прыехалі?

— Ну что-ж, пасмотрице, пакормице сибирских комаров, а жить, чай, паря, вы тут не сможете. —

— Ну, камароў мы не баімся. Нам зямлі-бы толькі ў волю, — адказаў за ўсіх Янка Кісель.

— А ці далёка яшчэ да сяла? — запытаў Хвёдар Шаруха, але той ужо адышоў да сваёй хурманкі, нічога не адказаўшы на запытаньне. Той, што сядзеў на другой хурманцы і слухаў усю размову, адказаў:

— Вёрст двенадцать будет.

---

*) Гэтыя нарысы „Самаход“ — „Гасьціннасьць“—не прэтэндуюць на тое, каб даць поўныя малюнкі жыцьця перасяленцаў у Сібіры, або адносіны тамашніх жыхараў да перасяленцаў. Яны толькі зьяўляюцца апісаньнем некаторых здарэньняў. Аўтар гэтых нарысаў—сталы супрацоўнік нашае газэты і „Чырвоны Сейбіт“, беларус, з Барысаўшчыны. Цяпер ужо некалькі год жыве і працуе ў Сібіры, дзе цэлымі вёскамі, а мясцамі і валасьцямі, жывуць беларускія сяляне-перасяленцы.

Пусьціў каня за першай хурманкай, той панёс наўскочку, і зараз хвіліну яны схаваліся ў чорным пыле, паднятым на дарозе.

Падняліся хадакі. Пацягнулі сваё крыху падлягчэўшыя торбы і рушылі далей.

Сонца зьвярнула на захад і ў паветры стала сьвяжэй. Абапал дарогі была густая, высокая ў рост чалавека трава, у якой, як зоркі, мігалі жоўтыя краскі, аганькі, напамінаўшыя пальявую гваздзіку, але пышнейшыя і ярчэйшыя.

Па кустох пырхала сініца і пела сваю аднаколерную песьню — шч. ціч, тара-ра, сьвірчэў сьвіргун, кукавала зязюля, але як-та глуха і сумна. Дзе-та далёка тарабаніла жаўна, а ў небе кружыўся конюх ды жалабна стагнаў: «піць, піць, піць»...

— Ну што, бачылі чалдона, запытаў Кісель у сваіх сяброў.

— Бачылі, — адказалі тыя і цяжка ўздыхнулі.

Думкі мімаволі пераляцелі на радзіму, ў мілую Беларусь.

Так у лятуценьнях і ня прыкмецілі, як прайшлі вёрст восем і апыніліся перад варотамі ў плоце. Плотам быў агароджаны малады нявысокі бярэзьнік. Паміж бяроз стаялі адзінокія лісьцьвяніцы, піхты і кедры і выдзяляліся сваёй цёмнай зелянінай. Гэта наскоціна — выган для ската. Прайшлі яшчэ з вярсту і ўбачылі на пашы без пастухоў кароў, авец, а потым сьвіньней, гусей і качак. Павярнулі ў лева і перад вачамі хадакоў выцягнулася доўгая, роўная, шырокая вуліца з хатамі і дамамі паабапал.

---

## ГАСЬЦІННАСЬЦЬ.

„Сыты галоднаму не спагадае".

— Дзядзька, а дзядзька, пусьці пераначаваць!—зьвярнуўся Лаўрэн Дрот да гаспадара, які ўвагнаў у двор дзьве хурманкі і зачыняў вароты.

Міхайла Пятроў—так звалі гаспадара, зьмерыў з ног да галавы сярэдніх год мужчыну, што стаяў перад ім, з пустой торбай за плячымі і сказаў:

— Ходок, заходи, паря, чай места хватит.

Лаўрэн, як не падскочыў з радасьці, што ўсё-ж такі хоць у сёмым дварэ адказу не атрымаў.

«Можа і павячэраць дадуць, каб гарачай капусты або буракоў», падумаў ён. Ад думак забурчэў жывот і пацяклі сьлюнкі. Гэта-ж, ужо дзён пяць будзе, як быў у новасёлаў-перасяленцаў і ад таго кіслага гарачага нічога ня еў. Дзе ні заначуеш, то ўсяго і гасьціннасьці, калі шклянку гарбаты вып'е, а то дык і так сухога хлеба пажуе. Усё было добра, пакуль у кайстры быў свой хлеб і сала, а цяпер ужо з тыдзень будзе, як яго скончыў. Праўда, ёсьць яшчэ ў кішэні пятнаццаць рублёў грошай, але-ж іх трэба зьберагчы на дарогу да хаты.

Гэтак разважаючы Лаўрэн увайшоў у хату. Прывітаўся з гаспадыняй, якая ўвіхалася каля печы і на масле смажыла піражкі з тварагом. Тут-жа каля яе стаяў пузаты з чырвонай медзі самавар і пыхкаў параю.

Хата вялікая на дзьве палавіны. Падлога, лавы, стол, палаткі, прыладжаныя ад печы да сьцяны пад уваходнымі дзьвярыма, кадушка дзеля вады, вушакі, дзьверы і рамы ў вокнах—усё пахварбавана жоўтай фарбай. У другой палавіне відаць два ложкі з пасьцельлю і гарой падушак. На покуце і на вокнах стаяць вазоны: фікус, клянок, аліяс і іншыя.

Увайшоў гаспадар і зьвярнуўся да Лаўрэна:

— Ну чо, паря, подзи отдохнуть хочеш, то вот на полатях приляг.

Зmoраны дзённою хадзьбою Лаўрэн зьняў з сябе саматканую сьвітку, узьлез на палаткі, падлажыў яе сабе ў галавы і прылёг. Спаць ён не хацеў, бо галодны жывот заяўляў аб сваіх правох. Пах піражкоў будзіў апэтыт. Лаўрэн глядзеў, як сям'я рыхтавалася да вячэры. Самавар апынуўся на зэдліку ў канцы стала. На стале зьявіліся піражкі, хлеб, сьмятана, малако і парожнія кубкі. Сям'я ўселася навакол стала. Гаспадыня наліла ў кубкі гарбаты. Гаспадар першы перахрысьціўся, узяў піражок і з апэтытам пачаў есьці яго, запіваючы гарбатай, забеленай малаком. За ім пачалі есьці ўсе.

Лаўрэн, каб напомніць аб сабе, моцна закашляў і зьлез з палатак. Гаспадар і гаспадыня кінулі ў бок падарожніка погляд і, нічога не сказаўшы, елі.

Лаўрэн уцешыў сябе думкай, што можа ў іх звычай такі не садзіць за стол з сабою разам падарожніка, а пачаставаць ў канцы. Сеў каля печы і пільна сачыў за кожным рухам за сталом. Ён заўважыў, што толькі па адным піражку і зьелі ўсё, а рэшта так і стаялі на стале. Гаспадыня падала на стол міску адваранай бульбы. Бульбу і хлеб макалі ў сьмятану і елі, запіваючы гарбатай.

Кончылі. Устаў гаспадар, перахрысьціўся, абцёр вусы і бараду рукавом і зьвярнуўся да гаспадыні:

— Ты, Микалаевна, сягодня пиражки повыше убирай, а то поди, по вчерашнему кот с'ест, да еще и чашку разобьет.

Разышлася ад стала і рэшта сям'і. Гаспадыня прыладзіла зэдлік, стала на яго і паставіла чашку з піражкамі на самую верхнюю паліцу, прыладжаную проці печы. Прыбрала з стала і рэшту іншае справы.

Надзеі Лаўрэна ня збыліся. На момант мільганула была думка папрасіць есьці, але не адважыўся і рашыў—лягуць спаць, то сам дастану хоць адзін піражок, добра, што бачыў, дзе паставілі; не пазнаюць, што ўзяў.

На гэтым уціхаміраўся, узьлез на палаткі і стаў чакаць, наглядаючы за ўсім, што рабілася ў хаце.

Сьцямнела. Сталі ўкладвацца спаць. Гаспадар разаслаў адзін кажух на падлозе ў другой палавіне хаты, другі прыладзіў накрыцца, паклаў пад галаву падушку, выцягнутую з кутка, і скора захроп. Гаспадыня яшчэ доўга тупала па хаце. Улажыла рэшту сям'і таксама на падлозе, падаслаўшы такія-сякія рызманы, але тут у першай палавіне, а сама палезла на печ і там лягла.

Лаўрэн заўважыў, што і тут яго плянам ня збыцца, бо лёгшыя на падлозе спаць так разьмясьціліся, што ніякім чынам няпрыкметна, не разбудзіўшы сьпячых, дабрацца да паліцы з піражкамі немагчыма.

Падцягнуў ён к сабе сваю кайстру, вытрас з яе астатнія хлебныя крошкі на разасланую сьвітку і доўга адбіраў большыя, кідаў сабе ў рот і жаваў. Скора зморыў яго сон. Разы два пазяхнуў і заснуў.

## Ю Н А К.

Ал. Розна.

Ціхі вечар, летні вечар.  
Ў высі—месяц вартаўнік.  
Над сягоньнешняй газэтай  
Галавой юнак панік...  
Прабягаюць зоркі-вочы,  
Над радкамі буйных слоў:  
«Паўстае ізноў рабочы,  
Паўстае усё ізноў».  
За вакном—заснуўшы горад  
І прастор, і супакой...  
А жыцьцё шуміць, як мора,  
З новай песьняй над зямлёй.  
Ў галаве другія думкі:  
«Бацька ў Вільні. Меры—сон  
Там, паміж глухіх завулкаў  
У турме жалезнай ён.  
Мабыць думае, гадае  
Аб сыночку, аб сваім,  
Аб тым новым, вольным краі,  
Дзе мы думкамі гарым...

Дзе мы ўсе жывём ня гэтак,  
Узрастаем і цьвіцём.  
У прасторах—новы вецер  
Вольным птахам паляцеў  
Мабыць сьлёзы ён раняе  
Па каханаму сынку,  
Вольнай думкай залятае  
У жыцьця другога шум...  
Не забыць яму пра сына,  
Аб мінулым—многа слоў...  
Бо сягоньня ён з усімі  
Будаваць жыцьцё пайшоў».  
Ціха ўкола. Адзінока  
Прагудзіць гудком завод.  
Як і ўчора, ўсё навокал—  
Так плыве за годам год.  
Аб мінулым успаміны  
Ўзварушылі юнака,  
Вечар ціхі, вечар сіні  
Усьміхнуўся з-за вакна.

# Аповесьць аб аповесьці

Зьмітрок Бядуля.

Маленькая імпрэсія, апавяданьне, аповесьць.

Вось лесьвіца, па якой падымаецца прозаік.

Спачатку малюнак прыроды, авеяны лірычным настроем. Аўтар яшчэ мала знаём з жыцьцём. Ён толькі вучыцца наіраць за ўсім вакольным, захапляецца хараством у розных яго праявах. Апрача індывідуальных пастрояў, ён яшчэ ня піша ні аб чым. Ён ня ўмее знаходзіць тэмы.

Імпрэсія—гэта спроба фарбаў, спроба пяра.

Невялікае апавяданьне звычайна пішацца адным махам, за адзін раз. Ад лірычных настрояў пісьменьнік пераходзіць да малюваньня людзей. Яго ўзварушае пэўнае здарэньне, якое перасягнула звычайныя межы вакольнага побыту жыцьця,—і ён піша апавяданьне. Яго зацікавіў адзін з яго знаёмых сваім самабытным характарам, учынкамі, арыгінальнымі поглядамі на жыцьцё—трэба напісаць апавяданьне, у якім галоўным гэроем будзе гэты знаёмы.

Апавяданьне—гэта частка аповесьці альбо толькі сужэт аповесьці. Калі наглядальні над зьявішчамі жыцьця ствараюць у пісьменьніка сталы сьветагляд, калі пісьменьнік ад несьвядомага нагляданьня пераходзіць да сьвядомага вывучэньня людзей, калі ў вакольным жыцьці падзея, большай або меншай вартасьці, цікавіць яго, робіць на яго ўражаньне, і дадатнымі, і адмоўнымі бакамі, калі ён ва ўсім гэтым прымае чынны ўдзел,—тады ён піша аповесьць.

Тэма?

Ї да рэвалюцыі іх было многа. А пачынаючы з вялікай імпэрыялістычнай вайны, потым Кастрычнік, грамадзянская вайна, савецкае будаўніцтва, культурны ўздым мільёнаў працоўных, адыход аднэй эпохі і надыход другой—невычарпальнае мора для назіраньня і творчасьці пісьменьніка. Ніякая фантазія дарэвалюцыйнага пісьменьніка не магла даць таго, што дало жыцьцё новай эпохі: жорсткасьць і зьвярыная дзікасьць капіталістычнай клясы, надзвычайны гэроізм працоўных, змаганьне між старым і новым, падвойнасьць у псыхіцы людзей пераходнага часу, псыхолёгія новых людзей, выгадаваных у віхоры і полымі Кастрычніка, змаганьне клясаў—вось галоўны экран, на якім адлюстроўваецца багатакалёрны фільм сучаснай гісторыі чалавецтва.

Ня ведаю, ці хоць адзін з пісьменьнікаў можа скардзіцца на недахоп тэмаў. У кожнага рабкора і селькора сотні тэм. Удзельнікі рэволюцыі, грамадзянскай вайны, маюць іх надзвычайна многа. У самакрытыцы нашых устаноў, у судовай хроніцы, у справаздачах аб новым будаўніцтве—іх на цэлыя бібліотэкі.

Гэтае неахопнае мора тэмаў у дынаміцы нашай сучаснасьці выклікала да пісьменьніцкай творчасьці сотні і тысячы новых людзей з працоўнай гушчы, выявіла многа выдатных талентаў, якія пры ранейшых варунках жыцьця загінулі-б бясьсьледна.

Зусім ня прыходзіцца гвалтоўна выціскаць з мазгоў разьвіцьцё сужэту, надумваць інтрыгу. Трэба толькі мець пры сабе блёк-нот і запісваць. Гэроямі аповесьці могуць быць твае добра знаёмыя і нават прыяцелі. А калі ў цябе багата аўтобіографічнага матэрыялу—пішы аб сабе! У даным выпадку ты зноў-жа малюеш жыцьцё большай або меншай групы грамадзтва.

Ты працуеш над аповесьцю ня толькі ў той час, калі сядзіш за сталом з пяром у руках,—а пастаянна. У ўстанове, дзе ты служыш, на сходзе, у тэатры, на вуліцы—ты прыглядаешся, прыслухоўваешся да людзей, убіраеш у памяць іх·

нія манеры, выгляд, голас, гутаркі—гэта матэрыял для тваёй творчасьці. З газэт робіш выразкі. Зьявіцца ў цябе ў сувязі з усім бачаным вакол новая думка—запісваеш. Часам адзін факт, адна невялікая, на першы погляд, падзея, можа быць стрыжнем цэлай аповесьці.

Творчы процэс падсьвядома адбываецца ў пісьменьніка пастаянна, нават у той момант, калі ён і ня думае аб сваім творы.

Часам нават уначы ўстаеш і дапісваеш некалькі радкоў у свой новы твор, бо якраз зьявілася новая цікавая думка.

Дзеці ў тваёй аповесьці разьвіваюцца, фабула разгортваецца ў шырокае палатно. Ты перачытваеш разьдзел, робіш папраўкі, яшчэ раз начыста перапісваеш. Ты малюеш жыцьцё, як яно ёсьць. Ты стараешся не даказваць, а толькі паказваць. Болей ня трэба. Калі ты шчыра паказваеш, дык разам з гэтым і даказваеш.

Бязумоўна, у той час, як пішаш, бачыш перад сабою жывыя малюнкі, толькі сьпісваеш з зрокавай памяці. Чуеш гутаркі людзей, рознастайныя вібрацыі галасоў, бачыш іхнія твары, кожную характэрную рыску на твары, выраз вачэй у розных пералівах настрояў і пачуцьцяў, кожны рух цела, вопратку.

Натуршчыкамі ў цябе—твае добрыя знаёмыя. Сьмела выкарыстоўвай іх у аповесьці. Толькі мяняй іхні выгляд, дай ім іншыя хатнія абставіны, каб іх адразу не пазнавалі. Рабі так, каб асабістай крыўды ня было з іх боку.

Пісьменьнік звычайна бярэ выключна тых людзей, якіх ён добра ведае. Ён мае права браць натуршчыкаў, як маляр. Тое самае і хатняя абстаноўка герояў.

Часам творыш зборны тып: выгляд аднаго чалавека, а рысы характару надаеш яму з некалькіх іншых. У даным выпадку твая спрактыкаванасьць у нагляданьні над людзьмі ставіць перад табою рамкі натуральнасьці і магчымасьці. Трэба, каб выгляд чалавека гармонаваў з яго нутраным зьместам, з яго характарам. Ты вывучаеш чалавечыя твары ў сувязі з іхнімі характарамі і ўчынкамі.

Самае лёгкае ў аповесьці—гэта разгортваньне пэйзажаў прыроды. Кожны з нашых пісьменьнікаў знаём з гэтым, ведае прыроду ў розныя пары году.

Але тут трэба старацца, каб не перахапіць меры, каб не затрымліваць такімі апісаньнямі агульнага разьвіцьця падзей.

Самае цяжкае, калі табе прыходзіцца даць што-колечы ў сваёй аповесьці з ня зусім знаёмай для цябе галіны ведаў і жыцьця. Напрыклад, у цябе фігуруе доктар, аграном, маляр, рабочы з шкляной гуты, музыка, фурман і г. д. Тады ты павінен знаёміцца, хоць у пэўнай меры, з такімі разнастайнымі галінамі ведаў і абставін. Бярэш энцыклёпэдыю, спэцыяльныя кнігі і вывучаеш. Стараешся знаёміцца з большым лікам такіх людзей, доўга гутарыш з імі, трапна накіроўваючы гутарку на тэму, якая цябе цікавіць—і пасьля гэтага запісваеш у свой кішанёвы блёк-нот патрэбныя для цябе матэрыялы. Лябораторная праца—гэта самае галоўнае ў процэсе творчасьці.

Разьвіцьцё падзей і ход фабулы?

Гэта залежыць ад індывідуальнасьці пісьменьніка. У большасьці само жыцьцё зьяўляецца ў гэтым выпадку найлепшым настаўнікам. Запас нагляданьняў за ўсялякімі праявамі жыцьця дае багаты матэрыял. Композыцыя праўдзівага жыцьця зьяўляецца найлепшай модэляй для композыцыі мастацкага твору. А часам пісьменьнік па свайму разуменьню і густу ператасоўвае дзеі і дае іх у цікавым драматычным нарастаньні. Яму фактычна толькі здаецца, што ён штучна ператасоўвае факты, бо разнастайнасьць жыцьця настолькі багата, што і ня ўгледзіш за ўсім. Тое, што ў адным выпадку можа здавацца непраўдзівым, у другім яно якраз праўдзіва.

Трэба толькі сачыць, каб ня выходзіць з законаў псыхолёгіі.

Ці гэрой адмоўнага ці дадатнага характару—углыбляйся ў яго душу, вывучай яго доўга, на пэўны час сам апранайся ў яго скуру, пераймайся яго настроямі і думкамі, спачувай яму (спосабам саманамовы *) і пытайся:

— А што-ж бы я сам рабіў на яго месцы?

Ты пэўна думаеш, для каго пішаш, хто зьяўляецца кадрам тваіх чытачоў, хто цябе зразумее адразу: бяз лішніх напружаньняў мазгоў.

Кончыў аповесьць—некалькі разоў рабі папраўкі, чытай сваім знаёмым і прыслухоўвайся да іх крытыкі. Зноў выпраўляй!

Аповесьць надрукавана ці ў часопісі, ці асобнай кніжкай.

З вялікай асьцярогай чытай у газэце або часопісі крытыку аб сваім творы: цябе альбо праз меру хваляць, альбо праз меру ганяць. Бязумоўна, і адны і другія перахапілі мерку. Рэдка бывае ў нашых часопісях шчырая марксыцкая крытыка.

Дзеля гэтага ня вельмі радуйся, калі чытаеш хвалебную крытыку, і не хвалюйся, калі цябе пралаялі ў друку.

Большую ўвагу, аднак, зварачвай на лаянку; з усіх адмоўных бакоў, адзначаных крытыкам аб тваім творы, пэўна знойдзецца і частка правільных заўваг, толькі ў паважлічаным выглядзе.

Трэба табе зноў праехацца алоўкам па друкаваных радкох свайго твору.

Запісвай заўвагі аб творы ўсіх тваіх знаёмых чытачоў. Давядвайся ў іх, што болей усяго падабаецца і непадабаецца ў тваёй творчасьці.

А галоўнае — старайся многа чытаць мастацкай літаратуры іншых аўтароў; таксама чытай аб літаратуры наогул, вывучай марксызм і рабіся строгім крытыкам сваіх уласных твораў.

*) Саманамова-самовнушение.

## РЫБАЛОВЫ НА МАЗЫРШЧЫНЕ.



Бацька з невадам—сын дапамагае.

# Кальчушка мярцьвяк.

З. Чыжэўскі.

Ціша навокал. Ноч пачынала абуджвацца ад кароткага летняга сну. Зацьвіркаў у паднябесьсі жаўранак, вітаючы новыя спадзевы наступнага дню. На ўсходзе, нібы высланая сонцам вартаўніца, ружовілася ў залатым адзеньні ясная зорка, ахапіўшы празрыстым зіркам неспакойны абшар, хвалюючы ў пераватах на сьмерць ці на жыцьцё, каб зрабіць данос сонцу, якое дзесь у далёкае даліні крычыла, сьвяшаючы за небасхілам, каб ссунуць мары ночы ўсяму жывому і прынесьці сваім усходам новае шчасьце.

Паабапал дарогі красаваліся магутныя хвоі, якія плакалі мабыць па скананьні ночы, роняючы з кудластых гольляў каплі расы-сьлёз, бліскучымі пацеркамі ўбіраючы заскарузлыя ашпалыя ногі-карэньні і зялёную мураву

Нашы чырвонаармейцы з неспакойнымі выразамі на тварах, змучаныя вялікаю колькі-днёваю дарогаю, апылеўшыя і засмаглыя, чуць-чуць, зьменьвалі ногі, перакідваючыся словамі, што сёньня нас можа спаткаць і якіх спадзеў можна чакаць у гэтым наступным дню.

Навакол усё, што сустракалася па дарозе, здавалася зачараваным нейкай таемнасьцю, здавалася ўсё гэтае, як кусьцік, трава і дрэвы яно ведае пракожнага з нас і хоча адазвацца, спачуваючы нашай стомленасьці.

Коні ў вазох з вайсковымі прыладамі важка перастаўлялі ногі, ласкава спаглядаючы на гаспадароў, абозьнікаў, нібы прасілі падмогі, зьмены. Пачало расьсьвітаць, мы выяжджалі на поле, якое разасьлалася ў рачох, край яго нік у далі тумяну, хаваючы ад вачэй яго рубежныя прасторы. Паабапал дарогі, якая слалася вузкай пярэстай істужкаю, і толькі як можна прайсьці зялёнымі ўзьмежкамі, скардзілася збажына, гарнулася да рук, калосікі цалавалі рукі чырвонаармейцаў, нібы просячы іх не таптаць, і астаўлялі на руках мокрыя водсьледы пацалункаў, выціраючы сваімі далікатнымі шоўкавымі валоскамі на руках пыл. Скрозь раньняй шэрані пачала прасьвечвацца вёска, але перш за ўсё павысоўваліся над будынкамі высокія дрэвы, старанна вартуючы сонную вёску. Здаля пачуліся сьпевы пеўняў, яны пераліваліся на розныя матывы і гэтымі песьнямі абуджвалі жанчын, якія за ўчарашні дзень, змучаныя вайсковай завірухаю і баязьню, спачывалі салодкім сном.

Сонца пачало ўзыходзіць, кінула свае залатыя прамені, чырваньню абсыпала ўвесь абшар нібы паслала вітаньне добрых пажаданьняў, вецер зварухнуў збажыну, хвалі панесьліся, пераліваючыся ў бязьмежную даль, за імі чарадамі набягалі новыя, і каласы пачалі нізка хіліць свае галовы, тарапліва прабавалі ўставаць, але дарэмна, іх згінала магутная сіла ветру і не давала спачынку.

Мы ўяжджалі ў вёску, спатыкаліся з жанчынамі, якія тарапліва перабягалі вуліцу з дайніцамі, з іх сустракаліся маладзіцы, саромліва апусьціўшы вочы к долу, нясьмела выгаварвалі дзень добры, мы ім адказвалі. Калі пыталіся ў дзяўчат ці далёка яшчэ да Бугу, то яны нам ахвотна тлумачылі—«пенць вёрст, а можа і шэсьць бэндзе». Мы прабіраліся па гразкай вуліцы, гразь чвякала, адрываючыся ад колаў вазоў, нашы таварыш[illegible] падымаючы шынэлі, перасковалі [illegible]жыны, цiснучыся да сьцен хатаў, бо [illegible]валася там нібы сушэй. У канцы вёскі ў перадзі дзесь у аддаленьні чуласяя клекатаньне кулямётаў. Лес, які мы праехалі, на гэты трэск адказваў рэхам і глуха разносіў па ва

хавінах гушчарніку і, нібы глытаючы вялізарныя кускі яды, сталнаў.

Праз гадзіну ці мо' паўтары нашага падарожжа мы ўбачылі, прыблізна ў аднэй вярсьце з паловаю, што нам перарэзвае дарогу хаўтурная цэрамонія і накіроўваецца да могілак, якія недалёка ад нас на ўзгорку мелі выгляд сухотнае бабы, бо з нізкіх густых ядлоўцавых кустоў выглядалі крыжы і, нібы хаваючыся, падымалі свае галовы, каб сачыць за ўсім рухам, які варыўся нібы ў гаршку вар, на дарове. Натоўп, які нёс дамавіну, вельмі пасьпешна прыспорваў за ксяндзом, які ішоў наперадзе за крыжам. Гэткае надзвычайнае сьпяшаньне змусіла нашых старэйшых зьвярнуць асаблівую ўвагу. Адзін з камандзіраў застанавіўшыся пачаў прыглядацца ў бінокль і, павярнуўшы каня, крыкнуў— Таварышы, за мною!—затупалі коні кавалярыстаў і нібы той град пасыпалі ў бок процэсіі.

Натоўп, які прыбліжваўся да могілак, убачыўшы наскок чырвонай кавалерыі, кінуўся ўцякаць і распыліўся па ўсім полі, нібы мак, грымкнуўшы вобзем дамавіну з мерцьвяком. Нашымі праклятымі была адкрыта страляніна, але з бягуноў ніводзін не зьвяртаў увагі, а як мог вышэй падымаў полы. У адказ з іхняга боку пачулася некалькі выстралаў, наша кавалерыя ня спыняла свайго налёту, а чым хутчэй сьпяшалася да мэты. Пехацінцы, якія беглі за кавалерыяй, пачалі ламаць паверхню дамавіны, якая стаяла пасярод поля адзіночкай. Калі адкрылі, убачылі там мерцьвяца кальчушку—«кулямёт Кольта» і многа да яго істужак з патронамі. Нехта з салдатаў адазваўся—гэта не мярцьвяк, а наша сьмерць.

Усе гэтыя прылады нашы хлапцы несьлі на двуколку, а з поля хуткім, але зважным крокам ішлі коні з кавалерыстамі і перад сабою гналі ксяндза. Гэты ішоў ў доўгім балахоне чорным, наверсе быў белы мантал, але аддаваў запахам крывавай тхліны. Пад барадою меў нібы касьцёр грэцкіх бліноў, бо відаць з тыдзень не галіўся. Вочы, як яблыкі «цыганы», з чырвонымі жыламі. Вусны яго былі белыя, нібы вісячыя сьвежыя вантрабяныя каўбасы. Не хацелася слухаць, але было чутно:

— Паночкі, што хочаце са мною рабеце, толькі не страляйце.

Гэтыя словы былі яго апошнімі. Марнаваць часу было неўпару, бо з паднябесных хмар падняўся ястрабам, ці не на вызваленьне «ксяндзу», польскі самалёт, які пачаў бунтаваць паветра сваім та-та-та-та-та.

Неўзабаве выстралы цяжка кашлянулі тры разы.

м. Койданава.

# РАЗЬВІТАНЬНЕ.

## Жызьнеўскі.

У ружовую замяць лістоты,
У васеньні імглісты дзень—
Разьвітальная наквець журботы
Клала ў сэрца маўклівы цень.

Цень маўклівы і повен смутку
Валавяніў маю галаву,
Мне здаецца, пакінуў тут я
Ўсё жыцьцё і маладую душу.

Усё забыць, што гадамі ўплялося
Ў памяць сьветлую, у кудлы мае,
Дні й гады, што хвілінай здаліся,
Што мільгнулі, як быццам у сьне.

Што-ж, бывайце, мае дарагія,
Час ідзе, я павінен ісьці,
Дні бягуць, быццам коні ліхія,
Дні нам сьцежкі снуюць у жыцьці.



Пачалася касьба.

# У чаротах.

**Янка Бавалёнак.**

I.

Лес наўсьцяж сенажаці за невялічкаю рэчкаю затапляўся паводкамі і рабіўся недасяжным. У ясны сонечны дзень зубчаты ўскраек яго мярэжыў на блакітным адліве, вады і сіняй вышыні. Павабна-чароўнае водценьне павольна гойдалася ў быстрай плыні і вабіла да сябе.

Стары Сымон з замілаваньнем пазіраў у шырокі прастор, дзе — ўсплёскі хваль, нібы ўсхліпваньні ажыўшае душы, тарпавалі яго і ўздымалі настрой. Двойчы, тройчы на дзень зьяўляўся ён ла берагу. Туды-сюды павернецца, штосьці зробіць ды зноў на поплаў. Там жыцьцё, аздоба!

Па ўзьбярэжжы ручаінаў, на балоце хісталіся асокі. У разводзьдзі плавалі чарады качак; на сенажаці, як вартаўнік двіў, на аднэй назе застыгла валяваха—шыя выцягнута, высока ўзьняты голаў, сьвецяцца, зьзяюць вочы. Угары чуваць крыкі жураваў, песьня слонкі. А дрэвы ціхуткія, пыхкія рунеюць, лісьцяцца ў заліцаньні стромай; бывае хісьнецца галінка на вярбе, пройдзе шолам—і павеўная постаць гібкае націнкі зьліваецца з галубовай празрыстасьцю, цягнецца ўгору або спадае і гойдае, дзе льлецца, хлюпоча крыніца. За пералескаму на прагаліне пачыналіся токі цецярукоў; глыбей-жа ў лес па барвінах у самай мерачы між балот пялі глушцы. Было іх калісь поўна. Сымон хадзіў бывала на подслухі, каб падвесьці пад песьню падлоўчага. Трапляла, што той страляў, неўпапад і Сы-

мон біў з свае паляўнікі. Стрэльба ў яго здавен-даўна адна: яе дастаў дзесьці нябожчык яго дзед і пакінуў у спадчыну. Доўга ён служыў за лясьніка; насіў стрэльбу ўдзень, уночы. Тады рулька была чарнютка, блішчэла брамка, куркі ўзводзіліся; цяпер яна ў іржы, растрэляна, як заўважаў ён, «шупціць»; курок або ня ўздымаецца, або ня трымаецца на ўзводзе. Але гэта на поўбяды. Горшае тое, што з ёю недзе дэлвацца. Усё за сваім «добрадзеем»—Пятрусём, які ў часе вайны дастаў дзесьці сабе «ламачыну» — стрэльбу і не даваў праходу, нікуды выйсьці. Калі выпадзе, лучыць бывае схапіць стрэльбу, каб падбегчы да сеўшых на жыце гусей, або кінуцца на ўпярэймы, у вабход воўка, — ён як з-пад зямлі ўстане.

— Эй, дзядзька, не сьпяшай, — скажа,—дужа Дзіва з цябе: да сівых валос патураеш моладасьці: Спачынь, заспакойся. Досі ўжо паляваў.

І няўзнаку дадасьць:

— Білет трэба ўзяць.

Гэтае «няўзнаку» зьбівала з тропу. «Дзіўны» (ці дзівак) кідаў нялюбы погляд і лаяўся. А Пятрусю тое ні зьвініць, ні брыніць. Білет падаўна трэба было яму самому ўзяць, але ён рызыкаваў, каб «абыйсьціся»: пойдзе ў волясьць, нагаворыць усяго на сходзе і— быць балазе.

— Круціцца, як чорт з апукаю, — казаў стары паляўнічы на маладога. А сяляне заўважалі:

— Старац старца ня любіць, а гаспадар іх абоіх. Уласьціва, прыкры яны былі не гаспадару, а лясной гаспадарцы, бо зьнішчалі дзікую жывёлу дашчэнту, бадзяючыся ў цёмнай мерачы. Астатнія гады Сымон хаваў стрэльбу—спачатку ў двары, потым у гумне, а нарэшце ў лесе. Зойдзе ў гушчар, знойдзе дупліватае дрэва і ў ім мае схаванку. Там у яго порах, ражок з шротам, люхткі, пістоны і троха цыры, а бывае і гары...

Пятрусь хаваў стрэльбу ў будынку. На вёсцы абое пускалі погалас, што стрэльбы зьбыты. Але сяляне ня верылі. Чуткі аб паляўнічых даходзілі да сельсавету, застаючыся аднак без патрэбнае ўвагі. Больш таго, на вачох усіх «ня роўня» кідалі адзін другому папрокі, звадзіліся:

— Ты не стралец, а насец.

— Ты птўшак ганяеш.

Пад вясёлы настрой Пятрусь сьпяваў любімую сваю песенку:

— Эх, туры — фантуры —
Я салдацкае натуры,
Я да лесу — стралец
І да дзевак маладзец.

На прадвесьні заліцаньне Сымона абуджанаю прыродаю, незахаваныя пагалынасьці да паляваньняў, цяга ў пушчу найгорш вызначаліся, здаючыся чымсьці самавітым з боку. Той, хто ніколі ня трымаў стрэльбы ў руках, вайздросна пазіраў на «шчаснага», які ў прагнім валаньні націнаўся на мэту.

Наведваньне Сымонам рэчкі больш за ўсіх цікавіла Пятруся, які пільна сачыў за «дзіўным» старым, зазіраючы раз па-разу ў вакно, або бадзяючыся каля будынкаў. Двор, як нарочна, быў пры рэчцы, скуль вельмі ручыла надглядаць. Трудна бяз вока «добрадзея» ўвыйсьці.

На поўдні, распрыўшыся ў вялікае агністае кола, сонца закапілася за цьмяны гай; кусты вольхі кінулі цень.

Сымон адкраўся.

II.

Зьвечарэла. На захадзе ў шэрані мроку васьвяціўся залаты сярпок маладзіка месяца; глянулі ясныя зоры. Выпаў, павячэраўшы, на падол Пятрусь і яго маладзіца.

— Добрая пара, — паважна прагаварыла яна, зачэрпаўшы вады і пераводзячы подых, прыпынілася. Пятрусь стаяў, як спавіты. На вёсцы быў шум, гам, пялі дзяўчаты, у галузе гэтым сюды далятаві з лесу гукі балбатаньня цецярука. Дзесь пры балоце на барвіне былі токі. Чорны прыгажун узьлятаў угору, калясом рэяў у паветры, спадаў уніз, лопаў крыльлямі, шырока рас-

пасьціраў пер'е, гнаўся ў бок лесу, шыкаў-сьвістаў, узлоў падлятаў ці зусім заміраў. Хвіля-другая і ўзноў зазка калясела песьня, прарэзвалася паветра, лопалі ўзмахі. Белыя веэры, распасьцёршы хвост, вынежна шасьцелі, лівалі срэбрам, гукі вьліваліся са звонам вясны, трымцелі, несьліся наўкола пад усплёскі разводзьдзя. На ім гарэла жарам шышка...

Пятрусь скрозь сіта мроку, у цені дрэў бачыў на волі пяюна. На крыльлях, здаецца, апышуўся-б за балотам.

— Тоця! — гаварыў, прышчаючы няўбаўнае палькасьці, — цягне мяне штосьці, вярэдзіць...

— Ай, — журчала крынічкаю яна,— пойдзем у хату. Нажыві човен, — жычыла зьнянацку, — дык у цоўгадзіны будзем там, за момант каля лесу.

— А выгодне там... на субалоціне, між верасоў... Соладка, ядрана... Слухай.

Тут абое ўніклі.

Аднак цецярук ужо не пяяў.

— Позна, — прамовіла Тацяна.

— Не... Стрывай... Хтосьці сагнаў.

— Эге, стук некі?

Кляп, кляп (падаліся адгалоскі).

— Так, тапаром аб дрэва. Гэта Сымон наводзіць будку в яловага лашнікугольля, в якой упалюе птуха.

— Калі-ж яму сабіла? Дай рады...

Пятрусь, згарача, сігануў у кусты; пралезшы збоку завоні, прылёг на мурагоўі. Маладзіца ўзьняла на каромысла вёдры, выпрасталася стройным станам і пайшла ў двор.

Унезабаве на люстэрка ракі выплыў човен. Усьлед за вадою ён імчаўся, як па паветры; за першай віднай плясой гойднуўся ў кручу і ўсплыў на сухадольле, дзе з яго выйшаў Сымон, узяўшыся за шрэчку тут, як юнак, ён падбегам пацёг човен у кусты, дзе захінуў гальлём. Азірнуўся, дастаў пілку, паляпаў ногцем аб яе, вытрас попел ды закурыў. Потым ціха падаўся дадому.

Як толькі адступіўся Сымон некалькі крокаў, з-за алешніку вынік Пятрусь. Тыц ён да чоўна: о, судзінка слаўная! А яшчэ ветразь дадам; стары «дзіўны» езьдзіць, а снасьці ня ладзіць.

Човен быў сьцягнены назад у ваду. Пятрусь жвава грабаў вяслом і пагнаўся на ніз. Ужо за выганам насупроць уздоўміны, дзе ляжалі на высокім адкосе ярусы вытраляванага лесу, Пятрусь прыдраіў карму, павярнуўшы да берагу. Ціхутка выцягнуўшы «судзіну», тут абярнуў яе пад высокі груд ня коранае жорасьці. Колер да колеру! Таёмная сьціш, зямлісты абрус ночы, амшалы плот, ральля... Дзесь заляпаў вартаўнік, але воддаль, нябачна. Пятрусь зьвярнуўся ў хату. Жонка спала. Праз падняты кужэльны полаг на яе твары зьзяў блішчасты водблеск месяцу. Выразныя рысы яе аблічча нагадвалі казачнае дзявочае харaство; на шчоках квітнелі ружы; бровы і вочы мелі той-жа вырыс лесу, між якога аддаляліся глыбоэныя азярыны і павоўна хісталіся асокі. Калінка ў белі-цьвету яна!

— Займу дзічы, заб'ю цецярука! — паабяцаў. Тоці Пятрусь. Разуўся, прылёг. Прыкрахнуў крыху ды прахапіўся. Яшчэ было рана: месяц сьвяціў на месцы, ня выходзіў з акна. Таму зноў прыхіляўся ён да любае маладзіцы. Засынаў. Штось трысьнілася. Нарэшце зязка пераклікнуліся другія пеўні. Сон зьляцеў в павек. Пятрусь, нахутка апрануўшыся ў кажух да сьвіту, выпаў. Дастаў стрэльбу, знайшоў човен. Сеў і паплыў, налягаючы на вясло. Цяпер вёска спала, была мёртвай, ніхто нідзе не абзываўся.

Рабілася зябка. А рэчка вдавалася бяскрайнай, бледоннай.

Пятрусь расьсякаў вяслом хвалі.

І раптам, як укушаны, крыкнуў:

— Ой!..

Сумна, у адчаю.

Човен з разгону наскочыў на палю. Ззыбнуўся і перавярнуўся. Хлюпнула вада. Пятрусь даў «нырца» і паплыў да

лазы, дзе быў бераг, але вада зьбівала, круціла ў буку ды несла далей. Апошняя сухая цурка за шэрагам кустоў хляснула па твары. Пётра затарнаваўся хапаючыся за бераг, глыбока заліты вадою. Рукі сьлізгнулі. Боты, штаны цягнулі на дно. Вір шырачэнны, глыбокі, расхінуўся наскрозь, глянула прадоньне. І рука ледзянела на сьцюдзёным сьлізгім, залітым паймаю, абрыве; другая пляскалася па хвалях. Пятрусь кінуў гук, які хутчэй плёхнуў вадою, чымсьці падаўся голасам. Ні душы, ня было сьведкі, ні жывога водгульля. Але астатнія сілы яшчэ ня страчаны. Ён зьвіс на беразе; прынік і — раптам кінуўся ўгору, як шчупак цераз невад, на ільдзісты бераг. Торба палящела далёка наўперад, а за ёю выбраўся і ён. Выпрастаўся, хістнуўся.

— Цьфу! — плюнуў муту-пену. У грудзёх калацілася сэрца, ледзьве перавадзіўся подых. Руччамі з вопраткі цякла вада.

— Ну, трапіла! — А човен дзе?

Павёў вачыма.

— Ого-го, куды спагнала. Аж у кручу, але добра — з аднаго боку. Стрывай, наганю.

Па калені ў вадзе дабраўся Пятрусь да чоўна. Сеў. Мокры, з выглядам вадзяніка, зноў пляснуў па вадзе вяслом. Паплыў у той-жа бок. І зноў апрытней і спрытней вясьліўся. Яшчэ ярчэй сьвяцілі зоры, яшчэ любей здаваўся сьвет.

Вось вырысоўваўся пяшчаны бераг. Човен плытка ўзышоў на прычальле. На абрыве апранаў бор, у які так валала ї ўсё-ж пайсьці пакуль нельга было: далёка заставалася да дню і сярнік не знайшлося, каб накласьці агонь. Прыдалося крыху сьцішыцца. Мігавольна ўзьнятыя вочы над пясчаным бугром, раскаціліся па шырокім зорным небе, дзе лашчыць хараство, патыхае згода. Месяц абходзіць зямлю, займае лагчыну, блішчыць, палыскае па пагорку, дрыготна мігціць у пералівах ручая. Стройна, суладна сьцінаецца кронамі лес, бясшумна заслаў сваю постаць кудзеляюценем; нячутна бавіцца ў эрухах-падыходах, праронішь нянацкам гук-трэск падаючага суку, які згінуў і зламаўся пры скоку па ім віёркі, ды зно. сьціш, ня зэыбнуты спакой. Водблеск месяца нейк траціцца ў махрыстых вершалінах, як-бы ў купчастых хмарах і бледа, бледа нявыразна адбіваецца за тым на аднэй гроні суградзіны хвойнага дрэвастану. Дзе-ні-дзе сьвітае ў прадзярэю і па прагалінах у яго пазалоце зьзяюць камлі дрэваў. Сярод цемені, якую вось-вось можна сьцяць у жменю, блеск-зірк яго яшчэ прыемней і павабней. У ім погляд каханкі, у ім замілаваньне пекных вачанят і нескончоныя мары-думкі, лятуцельні ў квяцістыя далі.

Пятрусь сядзіць даўно на пні пры ручаіне ўнізу пагорка. Русыя валасы яго раскінуліся на плячох, здаецца, гойдаюцца, паланеюць у дрыготным мігценьні сьвятла, крадком выбіўшыся праз галіны; лагодна вяждаецца над ім яснае марыва заірадзеўшае зарніцы, вышыня ў пазалоце. Ручаіна бруяе. Звоны-пералівы, ціхія ўсплёскі срыбрыстых хвальваладаюць і лашчаць. От той-жа звонголас срэбра — рыбкі яго Тоці. Але лёд-ледзяны! Сьцюдзёны звон, сьцюдзёныя мары. Яму зябка. Дрыготна.

— Цок-цок-цок! ляпаюць зубы. І думы бягуць чарадою.

— Тоця сьпіць спакойна...

А ў балоце над ручаямі хістаецца асока. Чароўна шэпча, шасьціць. Дзесь заклякатаў бусел.

— Ох! — апамятаваўся Пятрусь, — ільдзістым я стаў. Тоця ня бачыла гэтак. На ніцых лозах падчас ікра клеціцца зорна і тыя на мне бліскавінкі. Дзівіся, Тоцю! аддалося само сабой.

Ці то голас, ці то думка?

Зябкае паветра яшчэ больш патыхнула. Пятрусь ня сьпіраючыся ўвайшоў у човен. Вясло ліўнула, човен паімгліівіў уніз за вадой.

Залацісты колер цяпер адсьвечвае белым.

# НОВАЕ Ў БАРАЦЬБЕ З СТАРЫМ.

## Шчыты ў хаце селяніна Мазырскай акругі.



Шчыток у канцы хаты, дзе жыве бацька, на ім выразаны крыж з эвангельлем.




Шчыток у другім канцы хаты, дзе жыве сын. На гэтым шчытку на дзераве выразаны чалавек з чырвонай зьвяздой у руках. Далей відаць дата—1926 год.

---

# СЫПЛЮЦЦА ЗОРЫ.

## Ігнат Сярмяжны.

* * *

Сыплюцца з неба зоры,
Ў цемень кудысьці лятуць,
Недзе асьвецяць прасторы,
Недзе яны расьцьвітуць,
Недзе зьвядуць карагоды—
Новым жыцьцём замігцяць,
Зазьзяюць у непагоду,
Зыркім агнём там.

* * *

Зьвіліся ў небе карагоды зорак
І поле ціхае, апутвае імгла,
А думка нейкая бяз песень і гаворак
Ў душу лягла.
Пачуцьці ўзгараюць прыскам,
А сэрца зноў нібы у полымі шугне,
Дзівоснай песьняй заіскрыцца
І не засьне.

# КРЫЖ.

А. Ручаіна.

I.

Ні вёскі, ні крыжавахі, а крыж драўляны, пахілы стаіць адзінокі ля дарогі, якая адным берагам сваім падымаецца на ўзгорак, а другім глядзіць у лагчыну. Адступіўшы пяць крокаў ад дарогі, крыж ладзіцца сваёю верхавінаю заглянуць, што робіцца за ўзгоркам, але бачыць ня можа — мала падняўся ўгару па схілу. Розныя думы выклікае ён у падарожных. Хто ідзе — зірне і так далей пойдзе, а старыя людзі хрысьцяцца на яго. Улетку яго казыча рухавае пад ветрам залатое збожжа, дакранаючыся цяжкімі каласкамі да пачарнелага дрэва, сячэ яго дождж. Над ім прабягаюць хмаркі, а з-пад іх украдкаю раз-па-разу выглядае сонца. У гэту хвіліну на твары вечна сумнага крыжу зьяўляецца мімавольная ўсьмешка, але хмары закрываюць сонца, і яна раптам зьнікае, а крыж ізноў пануры і сумны. Дарога рудавата-белаю істужкаю агінае ўзгорак і шпарка спускаецца ўправа і ўлева ад крыжа па зялёных усхілах узгорку. Крыж, як які вартаўнік, углядаецца пільна ў два бакі, дзе зьнікае ў далі дарога. Зімою, сьнегавыя віхры, вольна гуляючы па бязбрэжнаму сьнегавому полю, сярдзіта б'юцца аб яго, выюць, як-бы хочуць зьнішчыць усякую загароду іх шырокаму розуму. Сыплюць яны на крыж сьнегам, злучацца, упіраюцца, забягаюць з нейкіх бакоў, як нейкая сіла, якая па злосьці трымае яго моцна на гэтым месцы. Ён мусіць стаяць тут. У ціхі марозны дзень мімалётам верабей і вароны на ім адпачываюць. «Ня так-жа яго ўваткнулі сярод поля» — думае падарожны: «прызнакаю яго тут паставілі. А мо' здаўна стаіць ён тут, як адзнака старых могілак, хоць можа і сьвежая чыя магіла туліцца пад яго нагамі, а мо' набожны чалавек паставіў яго ля дарогі ці старшыня загадаў уваткнуць, як прызнаку для падарожных у зімовы час, бо вакол шырокае поле? «Мала якая прычына была; а крыж па-ранейшаму, распасьцёрты рукі-перакладзіны, углядаецца ўніз і выклікае новыя думкі, а прычына адна.

II.

— Якая я маладая, а меры здароўю свайму яшчэ ня ведаю, сама дзіўлюся, што так многа працы магу зьнесьці. Сэрп слухае мяне. Часамі і плуг мазоліць мае здаровыя рукі, я здужаю ўтрымаць яго. А мне толькі шаснаццаць год. Сіла мая спатрэбіцца: тата стары, мамы няма, сям'я вялікая; але яна можа надарвацца, калі ўсё, усю сям'ю трымаць аднымі рукамі. Мне-ж самой яна патрэбна.

Жыцьцп часамі ўсьміхаецца мне, кліча на мары, ласкі, але я пакуль не аб сабе думаю. Мне трэба падтрымаць маіх братоў і сёстраў, якія яшчэ малыя. Я буду ахвяраю для іх сірочага жыцьця. У мяне ёсьць сумленьне. А там мо' часы палепшаюць. Як там будзе, а жыць і цяпер трэба. У пана ёсьць месца нашаму Антоську. Добра, што ўздумала, Хартон у салдаты пайшоў. Пайду да пана, кінуся ў ногі, стану плакаць і прасіць прыняць Антоську ў падпіскі, тату заместа Хартона па андынару. Ён справіцца з баранамі, а дваццаць пудоў хлеба і паўпуда круп нідзе не валяюцца. Агідна, але нічога. Я не для сябе: і жыцьцё палепшыцца і тату палёгка будзе, часу застанецца трохі, каму калодку ў калёсы вытачыць ды заробіць якую капейку. Адзену лепшую сукенку, мусіць чырвоную трэба, і пайду. Трэба прывыкаць да рашучасьці, доля наша кліча на гэта. Пайду, можа і ўдасца.

Так разважала сама з сабою Марыля, дачка панскага аўчара, які адзінютка жыў у самым далёкім панскім фальварку М-ве і пасьціў пяцьсот калматых белых бараноў. Яму памагаў Хартон,

сын бяздомнае ўдавы, малады і здаровы хлопец. Прышла чарга яму ў салдаты. Да гэтага часу яго ніхто не прыкмячаў, як ён гараваў з сваёю маткаю; ён вырас на чужых парогах, а цяпер месца яму далі: паслужыць за веру і цара. Ня было каму галасіць па ім, як гэта робіцца ў вёсках — маці служанкаю ў двары была. Ён сабраўся, надзеў на здаровыя плечы торбу і, як той асілак, у лазовых лапцёх і белых анучах пайшоў у сьвет шукаць долі сабе і людзям. Цяпер аўчару лахва была ўсадзіць Антоську на Хвёдарава месца, але-ж на ўсё панская воля.

Навакол М-ва поле знарок запускалася ялавым для бараноў. Аўчар ужо стары і такі самы быў у яго прыяцель і верны друг сабака «Понаж». «Понаж» цэлымі гадзінамі без пастуха мог кіраваць баранамі, забягаючы наўкола, сьціскаючы іх у кучу. Ён добра разумеў свайго гаспадара і ніколі не брахаў, калі гаспадар, пасьля ночнае працы за калодкамі, засьне на сонцы. Ён тады заўсёды стаіць на высокім месцы і сочыць за баранамі. Каб ня гэтыя калодкі, дык аўчару і яго дзецям хоць памірай з голаду. Плацілі яму андынару 32 пуды на год і грашыма два рублі ў два месяцы. Дазвалялася трымаць карову і сьвіней з пару. Меў ён таксама і дзьве грады буракоў. Дарма было-б, але-ж сям'я 12 душ. Як здабыць кавалак хлеба — гэтым былі заняты ўвесь час галовы старога аўчара і большае яго дачкі Марылі. Яна скрыпнула дзьвярыма і пашла.

III.

Надвор'е было сонечнае. Вакол ціха хваляваліся белавата-зялёныя паплавы. Залатое сонца заснавала на іх свае залатыя кросны. Пчолы старанна пералятаюць з кветкі на кветку. Пахне мёдам. А ўгары купаюцца крошкі-жаўранкі, зьвіняць срэбранымі званочкамі і роўныя цягучыя трэлі іх мэталёвымі пацеркамі сыплюцца на поўную жыцьця зямлю і заміраюць у збожжы і мяккай траве. На гары, пад сонцам, мітусяцца белыя калматыя бараны, як вялікія мурашкі ля мурашніку. Кусьцікі мяккае травы на папары вабілі іх да сябе і часам былі прычынаю бойкі двух калматых працаўнікаў. У паветры насілася лёгкае хруматаньне.

Марыля ішла.

Пан устаў а восьмай гадзіне. Ён вышаў бяз шапкі, шырока ўздыхнуў і сеў на бальконе другога паверху, абапёршыся на заградкі. Сонца падымалася і выплывала з-за дахаў будынкаў, песьціла вярхі дрэў маёнтку, зайчыкамі гуляла на вокнах другога паверху пакояў. Дрэвы густа стаўпіліся і абнялі сажалку, якая зьмейкай увівалася паміж сталетніх дубоў, топалеў і клёнаў. Вараньнё чорнаю хмараю насілася над маёнткам, скігатала, грагатала, шчукала, трашчэла, пішчэла.

«Лёкай! — разьнеслася па стрэхах аднапавярховых будынкаў. «Нясі ахвотніцкую!» Праз пяць сэкунд малады, чысты, у фраку брунэт пёрся маланкаю, трымаючы бліскучую стрэльбу. Пан, не цэліўшыся, бухнуў у кучу вараньня, з якой адразу аддзяліліся шэсьць варон і бразнуліся перад носам пана, а дзьве птушкі, махаючы перабітымі крыльлямі, зрабілі косую і ўпалі за сажалкаю. Пан быў здаволены, што спагнаў злосьць. Яго гордасьць была паднята: захоча— і птушкам забароніць трывожыць яго сваім няцікавым сьпевам. Вараньнё з шумам віхрам зьляцела на могілкі, што былі недалёка. На дарожніку клапаціліся хмурманы, ля стайні канюхі чысьцілі коняй, вучылі маладых. Недалёка, з боку дэмынгаў каваль, заліваючы сад чыстымі мэталёвымі гукамі.

Праз дальні рог саду, ля калодзежа праходзілі дайкі з бляшанымі вёдрамі, пакідаючы на роснай траве цёмна-зялёныя крывыя сьцежкі. Перад пакоем зьмеем абкручваліся ля белых слупоў гірлянды і расьлі рознакаляровыя кветкі на градках-абручох, абложаных круг-

льмі белымі каменьчыкамі. Гладкія сьцежкі высыпаны жоўценькім пясочкам і абапал вылажаны таксама белым каменьнем. Усё гэта рэзала вока мазалём зайздрасьці кожнага мужыка, які тады і думаць ня мог, што ў гэтым садзе і пакоі ён будзе гаспадаром. А для пана гэта пекната была такою звычайнаю і простаю, што ўвага яго шукала нечага новага. Яго зусім не турбавала жыцьцё наўкола і ў самым маёнтку. Бойка двух вераб'ёў застанавіла на сабе на хвіліну панскую ўвагу, зацікавіла. Яны крычалі, перакідаліся, у бойку ўмяшалася яшчэ пяць вераб'ёў; пан пацяшаўся. Пакаёвы сабачка толькі спыніў гэту сцэну, чым выклікаў злосьць на сябе пана, але разам з тым і ўвагу яго перанёс на сабаку. Пан быў добры паляўнічы і любіў сабак, якіх у яго было да паўсотні розных парод і ўзростаў. Яму хацелася пабачыць грызьню сваіх «ваўкоў» (так звалі вялікіх сабак), якія стаялі на прывязі. Спускаліся яны толькі для пацехі пана, бо былі надта сярдзітыя і нападалі ня толькі на людзей, але і на жывёлу. «Спусьціць ваўкоў»,—скамандаваў паваеннаму,—«хай пагуляюць». Аграмадным молатам стукнула ў галовах слуг ад такога загаду. Яны сьпяшылі схавацца. Каваль толькі паранейшаму дзылінгаў ля кузьні—туды ня сунуцца.

Да «ваўкоў», акрамя сабакара Максіма, ніхто ня мог падыйсьці. «Шша! Максім пайшоў спускаць ваўкоў»,—гаманіў двор. «Шша! ваўкі спускаюцца». Заляскалі ланцугі , пранізваючы ні то брэх, ні то плач, агаласіў мёртвую ціш двара. Максім моцна камандаваў. «Но!.. Сюды!.. Вышлаш!.. Ня трэба, Мілка!.. Але яны яго ня слухалі, кінуліся да пакою, скакаючы, брэшуць і шукаюць сабе ахвяры; яе ня было. Сабакі рынуліся за сад. Гук мянташак даносіўся адтуль. Сяляне касілі панскую сенажаць. Косы кінулі траву і ашчырыліся на сабак, якія, злосна завываючы, дралі зямлю. Косы пачалі зноў плаваць па мяккай траве а сабакі маланкаю кінуліся па дарозе ў лагчыну, за якою падымаўся ўзгорак, які засланіў сабою поўнач. Густыя слупы пылу схавалі сабак, толькі час ад часу былі чутны іх зьвярыныя галасы. «Парвуць некага»,—кажа Вінцэсь, мянцячы касу. «Дзіва што, хай іх парэжа воўк», адказвае Кастусь, націскаючы на пупок.

IV.

Розныя думы клапацілі Марылю. Хацелася ёй быць гэроем і скласьці протэкцыю свайму малому брату. Яны, як тыя восы, лезьлі, адна другую адганяючы, у галаву дзяўчыны: «бараноў шмат, а ці справіцца тата з малышом, ага. Аўчарка—Панаж... добра. Але я-ж падыйсьці, што-ж казаць? Я ніколі не гаварыла з панамі». Нейкі страх аўладаў дзяўчынаю, але яна ішла, бадрылася, разважала. «Нічога казаць ня буду, а проста ў ногі бухну. Няхай сабе я буду прыніжацца, але нічога, я не для сябе. Мне абы Антося на службу... Хурманкі, ух, запылілі, шм... Ах, сабакі!.. Што-ж мне рабіць!? Дзе схавацца?! Дзе людзі?.. Нікога.... Божа... Ай, ай!! Ратуйце!» Марыля, махаючы дубцом, адступала назад, а сабакі з імпэнту застанавіліся і пачалі аблізвацца. Вочы іх гарэлі. Даўгія чырвоныя языкі абмывалі страшныя раты. Зубы скрыгаталі. Галава яе закружылася. Уваччу зрабілася цёмна. Нейкі агонь паліў яе нутро. Жалезнымі абцугамі сьціскала ёй горла, голас прапаў. Сьвет наўкола заварушыўся, і Марылі стала млосна, ногі слабелі. Сівая сука дзесь была засталася, а цяпер з брэхам ляцела на дзяўчыну з узгорку. З разгону скочыла ёй на твар і зьбіла з ног. Няшчасная бразнулася вобзем, а сука пачала рваць яе за галаву. Марыля з нечалавечым перадсьмяротным енкам схапіла суку рукамі, так моцна сьціснула, што тая запішчэла і пачала кідацца, каб вырвацца, цягаючы па пяску дзяўчыну. Сабакі ўзлаваліся. Упіліся зубамі ў Марылю і задушылі. Моцна саплі і нюхалі паветра.

## НАЧНЫЯ ДУМКІ.

### Максім Лужанін.

Сіні месяц упаў на вершаліны дрэў—
Затрымцелі трывожныя дрэвы...
Белым кветкам на вуха шасьцеў-шалясьцеў
вечер ціхія, кволыя сьпевы.
І сьпяваў над далёкай ракой салавей,
У алешніках цені мігцелі...
З волкім бляскам тугі ў зялёнай траве
іскры росна зары пунсавелі.
А праменьне—сьцякала з лістоў далавах,
нітавалася думка міжволі:
колькі будзе схіляцца аўсоў галава
над узьмежкамі шумнага поля?
Мне хацелася тонкую постаць абняць,
прыхінуцца да шчырай і любай...
А каб радасьць ня гасла,—усьмешкай паўдня
асьвяціць недалёкую згубу.

І ліпося, ліпося праменьне далоў,
у прасторы—зьвінелі пачуцьці...
І чамусь валуцузе салодка было,
што й аб ім дзесьці думкі віюцца...
Што аб ім сэрца любай дзяўчыны смыліць,
што да болю ёй горна і цяжка
і што гэтае шчасьце, на гэтай зямлі,
быццам кветкі зімой, недасяжна.
Неяк дзіўна і страшна пакуту цярпець,
калі вечна туга не згарае...
Гэта радасьць і боль, гэта ўсё для цябе
пачуцьцёвы кілім, дарагая.
Сіні месяц упаў на вершаліны дрэў—
на сьцяжынах скрануліся дрэвы...
І пра вечную ростань шасьцеў-шалясьцеў
волкі ветрык задумлівым сьпевам.

## НА АСІНАСТРОІ.



Узводзяцца новыя будынкі.



Асінаўскія тарфянікі. Яны дадуць электрычнае сьвятло глухім вёскам Аршаншчыны.

# ПА БЕЛАРУСІ.

## НА ГОМЕЛЬШЧЫНЕ.

**Міхась Зак.**

### Беларусізацыя на рэклямах і на справе.

Вось ён—Гомель. Надпісы на шыльдах і рэклямах—на дзяржаўных мовах Беларусі.

Але ці ў шыльдах справа?

«Мядовы месяц» шматлікіх разважаньняў аб нацыянальнай політыцы і беларусізацыі, наагул, на Гомельшчыне даўно ўжо скончыўся. Справа, выразная справа зараз патрэбна,—аб гэтым гавораць усюды на Гомельшчыне.

Пакрыху ідзе беларусізацыя акруговай газэты «Палесская Правда», паасобныя працаўнікі ўпарта вывучаюць беларускую мову, а некаторыя ўжо ёю аўладалі. Гэта, праўда, пакуль адзіночкі. І іх завуць там ва ўстановах «нашымі беларусамі». Да іх накіроўваюць усякага, хто прыяжджае ад беларускай газэты і, наагул, па справах беларусізацыі.

Ёсьць зараз на Гомельшчыне і іншага роду «беларусы». Яны пасвойму зразумелі нацыянальную політыку, пасвойму праводзяць беларусізацыю.

Чым, напрыклад, не характэрныя факты, калі ў Гомельскім аддзеле працы адмовіліся чытаць колектыўны дагавор працаўнікоў пошты, які быў напісаны на беларускай мове, калі настаўнікі ў Добрушы хочуць гаварыць з вучнямі толькі «на русском языке»?

## „Беларуская Вёска“.

Гомельскі акруговы камітэт партыі паставіў перад усёй партыйнай арганізацыяй акругі задачу—у бліжэйшы час ня менш чым на кожныя 25 сялянскіх двароў акругі павінна быць газэта «Беларуская Вёска».

І вось зараз—ад пастановы да справы. Мы арганізоўваем сетку ўпаўнаважаных, распаўсюджваем «Беларускую Вёску» на Гомельшчыне.

І на пленуме Гомельскага сельскага райвыканкому, і ў Рэчыцы на пленуме—ўсюды прадстаўнікі сельсаветаў выносяць пастанову: самім падпісацца на «Беларускую Вёску», пашыраць яе сярод сялянства. Шкода толькі, што ня ўсе яны выканалі свае пастановы.

Кожны дзень з вёсак Гомельшчыны ідуць весткі, дзе сяляне пагалоўна падпісаліся на «Беларускую Вёску», а дзе ўзяліся за яе пашырэньне.

Працаўнік Гомельскага крэдытнага таварыства тав. Бараноўскі, вучань Лоеўскай сямігодкі Галавачоў, працаўнік Лоеўскай райземчасткі тав. Мельнікаў, Суткоўская школа сялянскай моладзі, настаўнік з Камарынскага раёну тав. Расюк—вось пакуль лепшыя нашы сілы, якія ўпарта працуюць над распаўсюджаньнем «Беларускай Вёскі» на Гомельшчыне.

## Камарын.

Да Камарына ўлетку можна даехаць толькі параходам, а ўзімку да бліжэйшай чыгуначнай станцыі трэба ехаць 70 вёрст коньмі. Ад Камарына да акруговага цэнтру—каля 200 вёрст.

Позна ўначы прывязе цябе параход у Камарын. Ён высадзіць цябе на бераг, пусты цёмны бераг ракі. Ніякай тут прыстані, ніякага чалавечага жыльля. Камарын знаходзіцца на другім беразе Дняпра, і праехаць туды на лодцы можна толькі за гадзіну.

На беразе ўжо нас чакаюць лодачнікі.

Нас чалавек 20 пасажыраў садзіцца ў вялікую крэпкую лодку. Лодачнікі займаюць свае месцы: адзін на карме, другі—на носе, а трэці—«кандуктарам» лодкі.

На сярэдзіне ракі «кандуктар» прыступае да выкананьня сваіх абавязкаў.

— Ну, а зараз, грамадзяне, давайце па паўрубля. Бяз гэтага, як кажуць, ня можна.

Мы пажартавалі:

— Бач ты, брат, на сярэдзіне ракі людзей рабаваць задумаў. Глядзі утопім за такія штукі.

«Пасажыры» жартуюць, але дастаюць грошы і аддаюць «кандуктару».

## Вада і пясок.

Рака ды глыбокія пяскі вакол—гэткі выгляд мае Камарынскі раён.

Камарынскі раён вельмі цікавы і ў адносінах краязнаўства. Гэтую працу па вывучэньні краю тут шырока разгарнуў настаўнік Юшчанка разам з сваімі вучнямі.

Аднойчы, ходзячы па лесе, тав. Юшчанка разам з двума вучнямі найшоў стаянку першабытнага чалавека. У хаце тав. Юшчанкі нібы музэй. Старая гліняная пасуда, выкананая ім з пяскоў. Розныя каменныя рэчы першабытнага чалавека і яшчэ шмат цікавага. Камарынскі раён знаходзіцца на мяжы з Украінай: ад Камарына ўсяго 40 в. да Чарнігава, і калі праехаць параходам уніз па Дняпру—ня больш 100 в. да Кіева. Сярод насельніцтва тут ёсьць і украінцы. Тут ёсьць 4 сельсаветы, якія працуюць цалкам на украінскай мове. Украінскія школы, нацыянальныя хаты-чытальні. Вымова камарынскага селяніна падобна да украінскай.

Амаль кожны дзень у Камарын на лодках прыяжджаюць украінскія сяляне з Чарнігаўшчыны. За «пів пляжкі» яны возьмуць і вас на лодку і завязуць за 40 вёрст па Дняпру ў Чарнігаў.

Але ўсё-ж Камарынскі раён—глухі, закінуты. Калі ў мясцовым коопэратыве тут ідзе рэвізія, дык вы ва ўсім мястэчку ні за што ня знойдзеце пачку махоркі.

А раней тут было яшчэ горш. У раённым цэнтры ня было нават сямігодкі. З далучэньнем да Беларусі Камарынскі раён пачаў шпарка разьвівацца. Адчыніліся новыя школы, арганізаваліся нацыянальныя сельсаветы.

Беларускае сялянства, якое складае большасьць насельніцтва раёну, творыць культуру.

# Дыямэнтаў у выпісах мала.

**К. Вашына.**

«Культурно-растущий читатель требует классиков» пішуць расійскія газэты. А выдавецтвы здавольваюць гэты попыт на добрую кнігу. Пісьменьнікаў мінулага адзін ГИЗ выпушчае аж у трох выданьнях адразу: ў выглядзе збору твораў, у сэрыі «клясыкі сусьветнай і расейскай літаратуры» ды ў «таннай бібліятэчцы клясыкаў». Друкуюць іх і другія выдавецтвы.

Гэта самае й на Украіне. Выходзяць творы М. Колюбинского, М. Вовчок, Т. Шевшенко і др. Поруч з гэтым друкуецца «дзіцячая бібліатэка украінскіх пісьменьнікаў». Выдаюцца зборы твораў сучасных пісьменьнікаў (Хвильового).

А ў нас, на Беларусі, Інбелкульт выпусьціў першы том акадэмічнага выданьня твораў М. Багдановіча. БДВ ужо тры гады як пачало выпушчаць у год па аднаму тому твораў Янкі Купалы. Паведамляюць, што скора будуць таксама зьдзекавацца з чытача творамі Я. Коласа, заморваць яго цярплівасьць у працягу гадоў пяці. Няўжо паважаныя аўтары гэтакія маруды? Наўрад!

Што-ж рабіць, каб ведаць мінулае роднага прыгожага пісьменства? А на гэта, бачыце, у нас ёсьць «Выпісы» аж трох сартоў ды яшчэ некалькі дзіцячых «чытанак». Вершы—драбязу, кароценькія апавяданьні, некалькі ўрыўкаў і з буйнейшых твораў можна знайсьці й там. А каб каму заманулася прачытаць «Гапона» Д. Марцінкевіча ці «Золата» (хоць ня скончанае) Ядвігіна Ш. альбо «Антона» М. Гарэцкага. Дык тут добра, калі М. Гарэцкі ў сваёй «Гісторыі беларускае літаратуры» ўспамянуў аб іх, пераказаў зьмест гэтых твораў, дык і дзякуй яму! Каб ні Гарэцкі, многія-б ня ведалі, што А. Гарун пісаў п'есы, што ў Багушэвіча ёсьць апавяданьні. А што рабіць, калі наш паважаны гісторык літаратуры маўчыць сам пра сябе? Значыцца, і ня было «Антона»? І ня варта яго ўспамінаць? Здэцца, М. Гарэцкі ня Пчолка які, не заслугоўвае такой няўвагі.

Якія-ж меркаваньні стрымліваюць наша БДВ? Можа, што ня купяць такіх кніг? Як то ня купяць? А чаму першы том Я. Купалы ўжо разышоўся й рыхтуецца другое выданьне? Пазьнейшыя творы Я. Коласа, З. Бядулі перавыдаюцца-ж другім выданьнем. І раскупляюць. А чаму няўвага к ранейшым творам хоць-бы тых самых аўтараў? Чаму ня можна выдаць К. Каганца, Ядвігіна Ш., А. Гаруна, Д. Марцінкевіча?

Праўда, як было выдавецтва «Адраджэньне», дык вышлі «Дудка і смык беларускія Багушэвіча і паведамлялася, што рыхтуюцца да друку творы К. Каганца. Няма «Адраджэньня»—няма й Каганца. Надыходзіць дзесяцігодзьдзе з дня яго сьмерці, і ў кнігарні каб кніжачка, каб маленькая гэтага аўтара. Сорам! А варта было-б 'шчэ і ўспаміны аб ім выпусьціць, пра яго надрукаваць кнігу.

Яшчэ дарэвалюцыйнае выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца» выдавала ня толькі тагачасных нашаніўцаў, але і пісьменьнікаў мінулага (Д. Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча). І ўмовы працы былі цяжэйшыя, чым цяпер.

У наш час выданьне ранейшых пісьменьнікаў беларускіх канечна патрэбна як школе, так і індывідуальнаму чытачу. Добрая рэч акадэмічныя выданьні, толькі доўга чакаць на іх. Няўжо наша БДВ не змагло-б даць чытачу творы старых пісьменьнікаў, няхай сабе ў выглядзе «дыямэнтаў прыгожага пісьменства» (выбраных твораў), як гэта рабіла выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца»? А што да «выпісаў», дык там дыямэнтаў мала, трэба іх даць больш і ня штогод па кніжцы, а трохі барджэй.

Вёска Скварцы на
Меншчыне.

# Сьвята шацкіх пажарнікаў.



Споўнілася 29 год старэйшай у Меншчыне шацкай пажарнай дружыне.



Шацкія пажарнікі на дэманстрацыі.

# Дайце беларускіх кніг.

Вядома, што кожны беларус кахае свой край, сваю мову, сваю газэту і кніжку. Але, на вялікае няшчасьце, беларускіх газэт ёсьць у нас зусім мала, а кніжак у вёсках няма. І як прыдзе вечар—няма чаго пачытаць селяніну. Мы хочам мець беларускія кніжкі, напісаныя нашай мовай, мы хочам у вольны час чытаць апавяданьні, ставіць спэктаклі, а, на няшчасьце, няма ані данэй беларускай кніжкі. Дык хто-ж гэта паклапоціцца аб гэтым?

Вёс. Байдакі, на Гомельшчыне.

Парафіновіч

**Ад рэдакцыі:** У Менску выдаюцца чатыры цэнтральныя беларускія газэты—«Зьвязда», «Беларуская Вёска», «Савецкая Беларусь» і «Чырвоная Зьмена», ня лічачы акруговых беларускіх газэт. Калі беларускіх газэт на Гомельшчыне мала, дык гэта лішні раз даводзіць тое, што іх трэба распаўсюджваць. Наконт-жа кніг павінна паклапаціцца Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Яно павінна задаволіць вёску даступнай селяніну па цане мастацкай і практычнай літаратурай.

---

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**У. Філімонаву, Сьвірыду, А. Шуму, Чартапалоху, Лазіцкаму, Агіевічу, Міхалковічу, Акулічу Л. М., Вішні, Матылю, Ястрабаву, Сваўму, Стрыжу, Ц. Котаву, Удаламу, Муху, Лохаўскаму, А. Старавойтаваму, Пашкевічу, Малашонкаву, Пракаповічу, Ш. А., Дзянісенку, Аготаровічу, Я. Яркаму, У. Ляўданьскаму, Я. Кроку, Пракопаваму, В. Хвашчу, А. Кветцы, Я. Каліне, Я. Хопіну, К. Галашкевічу, Крыловічу М., Бязбожніку, С. Касьцюку, Л. Бязьменаму, Мацьвеяву, Т. Лішаю, А. Бязьмежнаму, Я. Лешчанку, Ц. Валошцы, А. Марушчыку, А. Сумнаму, Клыгу С., М. Антаневічу, Асінадубоўскаму, Паўлу Занковічу, А. Лебядзе, К. Ж., А. Ляшкову, Карпечцы, Меснаму, Т. Немцу, М. Фідрусю, Дзядзьку Дзям'яну, Ваўкалоўскаму, Я. Цішкевічу, Бунтару, Чартапалоху, Левановічу, Чарнекаву, Барадзічу, Сакольчыку, Б. Доўнару, Н. Актывістаму, Муравіцкаму, Ш. Ляцецкаму, Пархімовічу, А. Садоваму, Лясавіку, Трысьніку, Я. Брусэвічу, Кукарэку, Яўтушэўскаму, Вераб'ёву, Азярыцкаму, Ю. Маркоўцы, А. Зянкевічу, У. Маліноўскаму, Ракаваму, Сямёнаваму, Сокалаву, С. Дзіваку, Я-Ш, Няхаю, Клёну, Ц. Касьцяну, А. Лерантовічу. Ночаку, А. Дуброўскаму, Алесю, Я. Паркеўскаму, П. Раманоўскаму, Антаненку Вас., Макавецкаму, Якушу, Гурану, Я. Монічу, В. Несьцеру, Я. Навіцкаму, А. Дуброўскаму, К. Лянкевічу, Гарэліку, Прасьцякову, Ральку, А. Хвойніку, М. Савічу, Сельк. Чарнеўскаму, Куцепалеваю, Войнічу, Апанасенкаву, Ляшкову, Зянькевічу, П. Матусэвічу, Жалуновічу, Рамашэўскаму, А. Беларусу, Ф. Дзянісенку, В. Старажэвічу,** — вашы вершы ня маюць ніякай літаратурнай вартасьці і друкавацца ня будуць.

Практыка паказала, што бадай не памылімся, калі параім вам пакінуць пісаць вершы і не адрываць дзеля вершаў сваіх сіл і часу ад вашай непасрэднай, больш карыснай працы. Каб пісаць вершы, трэба мець дзеля гэтага здольнасьць. А вашы вершы паказваюць, што гэтай здольнасьці ў вас няма. Калі чалавек здольны, дык ён хоць і няпісьменны ці малапісьменны, яго можна навучыць пісаць, а калі ў чалавека няма літаратурнае здольнасьці, дык хоць-бы ён і вышэйшую школу прашоў, — усё роўна поэтам ён ніколі ня будзе.

У далейшым адказы будуць давацца толькі на тыя вершы, з якіх відаць, што ў аўтараў ёсьць літаратурная здольнасьць. На ўсялякія іншыя вершы ніякага адказу давацца ня будзе.

**Я. Невядомскаму.** — Калі вы падрасьцеце і выйдзеце з піонэраў, тады можа што і напішаце каштоўнае для літаратуры. Тады будзе відаць. А пакуль што расьцеце.

# НОВЫЯ КНІГІ.

**М. Баршава.** Лявонка на вёсцы—апавяданьне. 28 стар. Цана 20 кап.

**Т. Фарафонтава.** Апавяданьне прыгоннай бабулі. 28 стар. Цана 20 кап.

**А. Федасенка.** Чырвоная зьмена (Першая пасьля лемантара кніга для чытаньня). 154 стар. Цана 55 кап.

**Проф. І. Замоцін.** Мастацкая літаратура ў школьным выкладаньні (мэтодычныя нарысы). Выпуск другі. 110 стар. Цана 90 кап.

**С. М. Некрашэвіч і М. Я. Байкоў.** Расійска-беларускі слоўнік. 728 стар. Цана 4 р. 50 кап.

**А. Савёнак.** Юныя гэроі. Апавяданьні для дзяцей. Пераклад з расійскае. 24 стар. Цана 25 кап.

**А. Зіміонка.** Працавітая дзяўчынка (для дзяцей). З малюнкамі. 16 стар. Цана 22 кап.

**Д. Амічыс.** Як дзяўчынка выратавала поезд. 26 стар. Цана 15 кап.

**А. Левін.** Жилкооперация и участие в ней женщин. 50 стар. Цана 20 кап.

Беларуская сялянска-работніцкая Грамада. (Зборнік артыкулаў). 54 стар. Цана 25 кап.

**М. Нікановіч.** Крык працы (апавяданьні). 66 стар. Цана 35 кап.

**М. Уцехін.** Як захаваць зялёны корм на зіму. 48 стар. Цана 25 кап.

**Узвышша № 117 (202 стар.) і Узвышша № 218 (212 стар.).** Часопісь літаратуры, мастацтва і крытыкі. Цана ў продажы — 1 р. 50 кап.

**Янка Купала ў літаратурнай крытыцы.** (Зборнік артыкулаў). 259 стар. Цана 2 р.

Полымя № 3. Часопісь літаратуры, політыкі, эканоміі, гісторыі. 252 стар. Цана 1 р. 50 кап.

**А. Зімёнка.** Малюнкі Г. Змудзінскага. Нашы прыяцелі (дзіцячая). Цана 60 к.

**Беларускія народныя песьні** (з нотамі). 62 стар. Цана 2 р. 50 кап.

**Д. Пракапенка.** Як палепшыць сенажаць. 66 стар. Цана 25 кап.

**Янка Купала.** Збор твораў, том IV. 226 стар. Цана 2 руб.

**М. Калінічэнка і І. Мазур.** Чырвоная зьмена. Кніжка для другога году навучаньня па комплекснай сыстэме. 292 ст. Цана 1 руб.

**Бальшавік Беларусі.** Часопісь № 5, за май. Цана 25 кап.

**С. М. Тупяневіч.** Як здабываць корм у сялянскай гаспадарцы. 60 стар. Цана 23 кап.

**А. Дудар.** «Вэто», зборнік вершаў, 60 стар. Цана 65 кап.

**Ш. Брохэс.** Фізыка (на яўрэйскай мове). 236 стар. Цана 1 р. 75 кап.

**В. Румін.** Забаўная хэмія, 98 стар. Цана 45 кап.

**Р. Сімаlistоўская.** Няўдалы яздок (апавяданьні для дзяцей). З малюнкамі. Цана 20 кап.

**Якуб Колас.** Леў і воўк. Казка для дзяцей. З малюнкамі. Цана 50 кап.

**Якуб Колас.** Воўк дурань. Казка для дзяцей. З малюнкамі. Цана 55 кап.



---

*Адказны рэдактар* ШУКЕВІЧ-ТРАЦЬЦЯКОЎ.

## ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА САМУЮ ТАНЬНЕЙШУЮ У СССР СЯЛЯНСКУЮ ГАЗЭТУ

# „БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА“

## ДА КАНЦА ГОДУ

## У МАІ МЕСЯЦЫ БЫЛА ВЫЙГРЫШНАЯ ЛЁТАРЭЯ.

**РАЗЫГРАНА:** Адна сячкарня на 40 руб., 2 новыя драпакі, 65 плугоў, 2 новыя медныя самавары, 20 новых косаў, 20 сярпоў, 2 бібліотэчкі па 20 кніжак, 2 пары новых ботаў, 2 пары камашаў, суконны касьцюм, 2 адрэзы корту на касьцюмы, 10 жаночых хустак, 2 новых часоў, 2 хатнія аптэчкі, 5 камплектаў насеньня гародніны, 2 пакункі цукру па 20 фунтаў, 100 пудоў палепшанага насеньня, 20 завадзкіх парасят, 10 цялят і 100 прышчэпаў.

У розыгрышы прымалі ўдзел усе шасьцімесячныя і гадавыя падпішчыкі „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“, якія падпісаліся на газэту ня менш як на 6 месяцаў. Кожнаму быў высланы асобны лётарэйны нумар.

**НЕ ПАЗЬНІЦЕСЯ З ПАДПІСКАЙ—АБВЕШЧАНА 2-ая ЛЁТАРЭЯ.**

За 90 капеек вы атрымаеце 78 нумароў „Беларускай Вёскі“, 24 нумары „Спажывецкай Коопэрацыі“, 12 нумароў газэты „За грамату“, 6 нумароў „Змагайся з Цемраю“, 12 нумароў дадатку „Беларускі Пчаляр“, 6 нумароў журналу „Чырвоны Сейбіт“ і цэлы рад іншых дармовых дадаткаў.

## Умовы падпіскі на газэту „БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА“

| ВЫДАНЬНІ | 1 месяц | | 3 месяца | | 6 месяцаў | | 1 год | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. |
| Газэта „Беларуская Вёска“ . . | — | 15 | — | 45 | — | 90 | 1 | 80 |
| „Беларуская Вёска“ і журнал „Плуг“ . | — | 30 | — | 90 | 1 | 80 | 3 | 60 |
| „Беларуская Вёска“ і журнал „Беларуская Работніца і Сялянка“ . | — | 30 | — | 90 | 1 | 80 | 3 | 60 |
| „Беларуская Вёска“ і кніжка па сельскай гаспадарцы. . . . | — | 30 | — | 90 | 1 | 80 | 3 | 60 |
| „Беларуская Вёска“ і журнал „Беларускі Піонэр“ . . . | — | 35 | 1 | 05 | 2 | 10 | 4 | 20 |
| „Беларуская Вёска“ і жур. „Маладняк“ | — | 60 | 1 | 80 | 3 | 60 | 7 | 20 |
| „Беларуская Вёска“, журнал „Плуг“ і „Беларуск. Работніца і Сялянка“ | — | 45 | 1 | 35 | 2 | 70 | 5 | 40 |
| „Беларуская Вёска“, журнал „Плуг“, „Беларуск. Работніца і Сялянка“, „Бел. Піонэр“ і кніжка па сельск. гаспадарцы. . . . . | — | 80 | 2 | 40 | 4 | 80 | 9 | 60 |

**УВАГА:** журналы „Плуг“ і „Беларускі Піонэр“ паасобку на месяц каштуюць па 20 кап., „Бел. Работніца і Сялянка“ і кніжка па сельскай гаспадарцы каштуюць па 15 кап. у месяц, „Маладняк“—50 кап.

Заказ № 2628. У ліку [illegible]000 экз. Галоўлітбел № 304.